11 студзеня 2019 | № 1 (612) Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




**Катаў Чаўшэску — пад суд!**
Стар. 8

**4 З НОВЫМ ГОДАМ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

Феадалізм пакінуў нам у спадчыну формулу «васал майго васала — не мой васал». У Беларусі з яе ўладнай «вертыкаллю» яна не прыжылася, што і зафіксавана ў Канстытуцыі ўзору 1996 года

**5 ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ЗОНА АДПАЧЫНКУ**

З Гомеля ў радыяцыйны запаведнік выправілася першая турыстычная група



**6–7 ШТО БЫЛО ДА ПУЦІНА?**

На фоне чарговага абвастрэння беларуска-расійскіх адносін, шавіністычнага выбуху ў смі ўсходняй суседкі, варта зрабіць адпаведную гістарычную рэтраспектыву

**10–11 СТАГОДДЗЕ БССР. ЗНЯЦЬ РУЖОВЫЯ АКУЛЯРЫ**

Савецкая Беларусь — гэта адзін з этапаў гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Аднак не варта яе «гларыфікаваць»

# Трэці Рым — Масква ці Кіеў?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Украіна нарэшце атрымала томас — права на сваю аўтакефальную царкву, якую прызнае Канстанцінопаль. Вачыма сучаснага чалавека, выглядае ўсё гэта дзіўнавата: сабраліся дзядзькі з барадамі, нешта падпісалі... Хутчэй нагадвае рэаліі і перспектывы Копцкай ці Эфіопскай царквы, улічваючы, што жывем мы ў XXI стагоддзі, падчас палётаў на Марс і генетычных эксперыментаў.**

Але калі глянуць на гэта праз перспектыву стагоддзяў — і будучых, і мінулых, — падзея эпахальная. Нароўні з увядзеннем бязвізу, рэформай войска, томас — гэта ўжо эпоха найноўшай гісторыі Украіны. Украіна змяніла сітуацыю, якая існуе з сярэдзіны XVII стагоддзя, — часу, які нам і ўявіць цяжка. Менавіта тады, за часамі Хмяльніцкага, калі Левабярэжная Украіна апынулася ў складзе Расіі, тут і запанаваў Маскоўскі патрыярхат.

Нам спрабуюць навязаць бачанне, маўляў, гэта «раскол» і «трагедыя» для Праваслаўнай царквы агулам. Зразумела, кажуць гэта апалагеты Масквы, дзе царква ўжо даўно ператварылася ў «міністэрства па справах рэлігіі» — накшталт таго, як Сінод пры Пятры I падпарадкоўваўся обер-пракурору і быў звычайнай чыноўніцкай структурай. Царква, зрэшты, гэта не толькі пра веру, але і пра ідэалогію. І аўтакефалія для Украіны — гэта старт рэанімацыі ідэалогіі Русі, якой доўгія гады карысталася адно Масква.

Якая гэта ідэалогія і што яна дае? Пры ўсіх «але», мы жывем у гістарычным канструкце, згодна з якім з'яўляемся нашчадкамі Русі — палітычнай, культурнай і эканамічнай сістэмы, што існавала 1000 гадоў таму. Адзіным бясспрэчным цэнтрам прыцягнення Русі заўжды вызнаваўся Кіеў. З часам Расія ўсю гэтую спадчыну прысабечыла: мову, веру, мінуўшчыну і гэтак далей. Гісторыя перайначвалася ў ідэалагічную зброю. Хрэстаматыйны прыклад — адказ Кацярыны II на папрокі ў падзеле Рэчы Паспалітай: маўляў, яна не ўзяла ані пядзі польскай зямлі — адно вярнула спадчыну Рурыкавічаў...

Зразумела, нацыянальныя і дэмакратычныя сілы ва Украіне пакуль гуляюць з іншымі трэндамі: этнічны нацыяналізм, еўраінтэграцыя, выбудоўванне сцяны з Расіяй. Агулам зараз гэта правільна. Але што з далейшай перспектывай? Канцэпцыю «шчыта Еўропы» калісьці ўжо выкарыстоўвала Рэч Паспалітая, але тое дрэнна скончылася. Ад чаго зараз Украіна мае прыкрываць ЕС? Ад краіны, якая забяспечвае Еўропу нафтай і газам, чые алігархі трымаюць у Швейцарыі ці Аўстрыі свае капіталы, валодаюць нерухомасцю, вучаць дзяцей, самі маючы, часцяком, англійскія пашпарты? Ці патрэбны такі «шчыт» Еўропе? Альбо гэта наўпрост даніна традыцыям і каштоўнасцям, ад якіх Брусель хоча, але пакуль не можа адмовіцца?

Калі паглядзець на наш рэгіён — колішнюю Русь і Літву — з пункту гледжання гістарычнай перспектывы, то мы ўбачым вельмі падобныя працэсы. Беларусь, Украіна, Расія, Літва, Латвія — будучы рознымі, усе мы сутыкаемся з вельмі падобнымі выклікамі. Гэта і дэмаграфічны крызіс, і алкагалізм (Літва, дарэчы, пару гадоў таму была на першым месцы ў свеце!), і масавая міграцыя... Усё гэта нагадвае павольнае спаўзанне ў нікуды.

Зразумела, што на фоне гэтых сапраўды сур'ёзных праблем рускія «панты» з не здольнымі ляцець ракетамі і перманентнымі вайсковымі канфліктамі выглядаюць вельмі недарэчна. Бо ўвесь наш рэгіён, па вялікім рахунку, стаіць перад перспектывай стаць «шэрай зонай», памежжам між Еўропай і Кітаем. Нездарма тыя ж кітайцы, якія не так даўно лічылі СССР сваім «старэйшым братам», зараз нават прыдомак «го» («дзяржава») больш не ўжываюць да Расіі, нібы дэманструючы, што для іх гэта — толькі тэрыторыя, прастора.



**Дзяржаўная ідэалогія Расіі заўжды трымалася на канцэпцыі знешняга ворага**

Авантуры Расіі, якія мы назіраем апошнімі гадамі, насамрэч — крызіс ідэалогіі. Зразумела, што любая імперская ідэалогія — гэта экспансія. Але экспансія магчымая, калі ёсць рэсурсы: чалавечыя, матэрыяльныя, інтэлектуальныя, вайсковыя, іншыя... Таму і сённяшнія рухі Крамля, хутчэй, нагадваюць банальную «белачку»: не налілі, таму псіхіка дае збоі...

Ад былой магутнасці і міжнародных уплываў у Расіі застаўся адно карагод дзіўных утварэнняў-саюзнікаў: Паўднёвая Асеція, Абхазія, Прыднястроўе, ДНР/ЛНР. Яшчэ ёсць нейкія ўплывы ў Сярэдняй Азіі, якія Масква паступова губляе. Ёсць розныя Нікарагуа ды астравы ў цёплых акіянах, якія ці то вызнаюць, ці то не вызнаюць Абхазію з Асеціяй. Ну, і Беларусь.

Пагадзіцеся, на фоне паваеннага СССР, на які арыентавалася ці не траціна краінаў свету, — сітуацыя фатальная.

Часцяком бывае, што гаворыш з рускім — ён адэкватны. Крытыкуе Пуціна, супраць агрэсіі на Данбасе, «Крым не наш» і гэтак далей. Але калі спытаеш пра выйсце — чалавек губляецца, наўпрост яго не бачыць. Чаму? Бо любая радыкальная палітычная змена — гэта пагроза распаду Расіі. А значыць — катастрофа. Не толькі эліты Расіі, але і ўвесь народ стаўся закладнікам памылак, як сучасных, так і даўнешніх.

Працяг тэмы на стар. 2 »

# Трэці Рым — Масква ці Кіеў?

« Працяг. Пачатак на на стар. 1

Расіяне зараз адкрыта кажуць: так, мы некалі ўзялі на ўзбраенне і карыстаемся дагэтуль «ардынскай ідэалогіяй» — ідэямі жорсткай улады, цэнтралізацыі і мабілізацыі. Каб не ўзялі, маўляў, ніколі б не сталі тымі, кім ёсць зараз: была б такая сабе краіна памерам з 5–7 Францыяй без ядзернай бомбы — і ўсё. Ноўгарад бы «анямечыўся», Украіна і Беларусь сышлі «пад Польшчу»…

Дзяржаўная ідэалогія Расіі заўжды трымалася на канцэпцыі знешняга ворага (Польшча, Францыя, Германія, ЗША). Чаго хоча знешні вораг? Падзяліць. Нават бальшавікі «белым» закідалі найперш не палітычныя праграмныя моманты, але супрацу з замежнікамі: Вялікабрытаніяй, Францыяй, Кітаем, Японіяй — зноў жа, з мэтай падзяліць Расію на сферы ўплыву.

Але вернемся да сучасных рэаліяў. Пасіянарны касцяк расійскага імперыялізму сёння — гэта, фактычна, бураты і чачэнцы. Нездарма Кадыраў стаў адным з сімвалаў сённяшняй крамлёўскай сістэмы, а «бурацкія шахцёры» — сумнай метафарай агрэсіі на Данбасе. Ці здольныя былі б этнічныя рускія на свае «крыжовыя паходы» без іх? Вялікае пытанне. Але і перспектыва тады ў Расіі не дужа вясёлая — ператварыцца ў «бурата-чачэнскую імперыю» ў шырокім полі ўплыву Кітая…

На фоне ўсяго гэтага Украіна выглядае даволі пазітыўна. Па колькасці — траціна насельніцтва Расіі. Калі казаць пра праваслаўнае насельніцтва — атрымаецца яшчэ больш працэнт. Дык чаму б Украіне не ўзяць на ўзбраенне ідэалогію Русі і Трэцяга Рыму, праваслаўнага цэнтру Усходняй Еўропы, якой дагэтуль карысталася адно Расія?

Лагічна спытаць: а навошта тое Украіне? Насамрэч — дзеля будучыні. Час ляціць хутка, але казаць, што Расія разваліцца зараз ці праз 10 гадоў — наіўна. Мы наўпрост гэтага не ведаем. Роўна як і пра перспектывы ЕС. Зараз Украіна адбіваецца, таму і карыстаецца абарончай ідэалогіяй, ідэяй шчыта. Ідэалогія Русі — гэта ідэалогія наступу, ідэя цэнтру, якая можа быць запатрабаванай ў перспектыве.

Зразумела адно: мы (беларусы, украінцы, рускія) нікуды адсюль не пойдзем, а значыць, будзе аб'ектыўная патрэба неяк жыць побач. Спаленага Крамля не будзе, а калі будзе, то добрым гэта нічым не скончыцца: у гісторыі падобныя выпадкі адно кансалідавалі рускіх і правакавалі на мабілізацыю і помсту. Таму ці не лепш рыхтаваць, прынамсі, ідэалагічную базу для згоды: не з сучасным Крамлём, але з рускімі як з народам. І тут акурат Украіна мае цудоўны шанец выбіць карты з рук апанентаў, заявіўшы на ўвесь свет: «Мы — цэнтр. Мы і ёсць руския!»

# Камісія па прызначэнні пенсій адмовіла пенсіянеру

**Камісія па прызначэнні пенсій Буда-Кашалёўскага райвыканкама адмовіла 60-гадоваму слесару-інструментальшчыку ААТ «Гомелькабель» Анатолю Паплаўнаму ў прызначэнні пенсіі па старых правілах.**




Фота www.censor.net.ua

Свавольны слесар лічыць, што ніхто не можа забіраць у яго права на працоўную пенсію па дасягненні 60 гадоў.

«Гэта права ўзнікла ў мяне першапачаткова ў СССР, а потым і ў Беларусі. Але ў 2017 годзе ў Беларусі быў прыняты Закон, па якім я пайду на пенсію толькі ў 61 з паловай года, што пагоршыла маё становішча ў параўнанні з раней існым заканадаўствам», — напісаў ён у дасудовай скарзе Упраўленню па сацабароне Гомельскага аблвыканкама.

Працоўны не жадае губляць пенсію за 18 месяцаў і будзе дамагацца яе выплаты, нават калі для гэтага давядзецца дайсці да Вярхоўнага суда.

«Я разумею, што ствараю прэцэдэнт, якім у выпадку поспеху скарыстаюцца і іншыя пенсіянеры, што не атрымалі пенсію ў 55 і 60 гадоў. Канстытуцыя забараняе надаваць зваротную сілу закону, які пагаршае прававое становішча грамадзян. Тым не менш, чыноўнікі павялічылі пенсійны ўзрост, а народ маўчыць. Я вырашыў дзейнічаць, бо калі адбудзецца павышэнне пенсійнага ўзросту у мужчын да 65 гадоў, я пенсію не атрымаю і праз паўтара года», — лічыць гамяльчанін.

Анатоль Паплаўны з'яўляецца сябрам Беларускага незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) і не хавае, што прэтэнзіі да дзяржавы яму дапамагла падрыхтаваць юрыдычная служба прафсаюза. Прававы інспектар працы незалежнага прафсаюза Леанід Судаленка адзначыў, што пасля павелічэння ў 2017 годзе пенсійнага ўзросту яшчэ ніхто ў краіне не звяртаўся з такой нагоды ў суд.

«Анатоль Паплаўны супраць урада Беларусі» — стала першай цяжбай у такім родзе», — адзначыў прафсаюзны юрыст. Ён дадаў, што ўжо ў судзе першай інстанцыі маюць намер дамагацца праверкі Канстытуцыйным судом надання зваротнай сілы закону аб пенсійным забеспячэнні.

Перспектывы гэтай справы пакуль няясныя — але сама спроба шараговага працаўніка змагацца праз суд за свае сацыяльна-эканамічныя правы вельмі паказальная.

**Паводле gomelspring.org**



# Названыя гарады Беларусі з самым брудным паветрам

**Белгідрамет назваў беларускія гарады з самым брудным паветрам.**

Паводле кіраўніцы службы экалагічнай інфармацыі Белгідрамета Алены Багадзяж, гаворка ідзе пра перыядычныя пагаршэнні стану паветра ў гэтых месцах, а не сталае забруджванне.

— У 2018 годзе якасць паветра заставалася стабільна добрай, за выключэннем шэрагу праблемных раёнаў у такіх гарадах, як Мінск, Жлобін, Гомель, Магілёў і Наваполацк, у якіх назіраецца перавышэнне асноўных забруджвальных рэчываў — азоту дыяксід, азоту аксід, а таксама цвёрдых часціц. У асноўным гэтыя перавышэнні фіксаваліся ў перыяды без ападкаў, а таксама ў неспрыяльны перыяд для рассейвання забруджвальных рэчываў.

Летась магутнасць дозы гама-выпраменьванняў па краіне заставалася стабільнай, за выключэннем зоны, пацярпелай ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Але і там падвышаныя значэнні ўзроўню магутнасці дозы гама-выпраменьвання не перавышалі шматгадовы фон.

**Сяргей Залескі, Беларускае Радыё Рацыя**

# Ці не шмат бярэ на сябе РПЦ?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Мяне хрысцілі ў праваслаўі, у царкве Аляксандра Неўскага ў Мінску. У той самай царкве, якая выступіла адным з ініцыятараў варварскага знішчэння помнікаў на Вайсковых могілак. І мне вельмі няёмка за гэта.**

І ўвогуле ўсё часцей мне робіцца сорамна за тое, што я належу да Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая падпарадкоўваецца РПЦ. Канешне, гэта не замінае мне маліцца разам з уніятамі, аўтакефаламі, каталікамі, пратэстантамі і пры гэтым адчуваць Бога. Бо для Яго прысутнасці ва ўсім навокал і ў чалавечых сэрцах не патрэбная санкцыя РПЦ. Але мне бясконца сорамна, калі сябры-каталікі віншуюць «братоў-праваслаўных» са святамі, а праваслаўныя «айцы царквы» дазваляюць сабе зняважлівыя выказванні пра тых, хто таксама верыць у Хрыста, але прытрымліваецца іншых календара і рытуалаў.

Згадаць хаця б нядаўнія падзеі, калі напярэдадні падпісання томасу для Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы мітрапаліт Павел выказаўся, што адбылося аб'яднанне «схізматыкаў з раскольнікамі».

Як вядома, каталікоў РПЦ таксама адносіць да схізматыкаў і раскольнікаў. І менавіта праз адсутнасць дазволу ад Маскоўскага Патрыярха ў Беларусь не можа прыехаць Папа Рымскі. Свабода веравызнання, недапушчэнне дыскрымінацыі па рэлігійнай прыкмеце, верацярпімасць і талерантнасць? Не, не чулі.

Паводле РПЦ, не дай Бог вам маліцца супольна з прадстаўнікамі іншых канфесій ці плыняў хрысціянства. Нагадаю, у сувязі з зацвярджэннем аўтакефаліі УАПЦ, вернікам РПЦ забаранілі ўдзельнічаць таксама і ў набажэнствах, якія ладзяцца ў храмах Канстанцінопальскага патрыярхату. Атрымліваецца, калі раней памаліцца на Афоне ці ў Сафійскім саборы ў Кіеве — важных на працягу стагоддзяў праваслаўных святынях — лічылася справай богаўгоднай, то цяпер за гэта чакае пакаранне.

«Праваслаўная Царква выключае ўсялякую магчымасць літургічных зносін з неправаслаўнымі. У прыватнасці, уяўляецца недапушчальным удзел праваслаўных у літургічных дзеяннях, звязаных з так званымі экуменічнымі або міжканфесійнымі набажэнствамі», — сказана ў дакуменце, прынятым Сінодам у 2006 годзе, які называецца «Аб стаўленні да інаслаўных вераспавяданняў і міжканфесійных арганізацый».

Праваслаўная царква абвяргае таксама тэзіс пра тое, што адзінства хрысціянскага свету можна аднавіць толькі шляхам сумеснага хрысціянскага служэння свету. Недапушчальна абмяжоўваць згоду ў веры вузкім колам неабходных ісцін, каб за іх межамі дапусціць «свабоду ў сумнеўным». Непрымальная сама ўстаноўка на талерантнасць да разнадум'я ў веры, гаворыцца ў асноўных прынцыпах стаўлення Рускай Праваслаўнай Царквы да іншаслаўя.

Хаця, па сутнасці, РПЦ прысвоіла сабе статус «адзінай ахоўніцы сапраўднага праваслаўя». У XV стагоддзі ў Маскоўскай дзяржаве ўзнікла канцэпцыя, згодна з якой праз «духоўнае і палітычнае падзенне Візантыі» адзіным апірышчам сусветнага праваслаўя становіцца Масква, якая атрымлівала вартасць Трэцяга Рыму. І з тых часоў яна актыўна замацоўваецца і абрастае ўсё новымі міфамі і догмамі.

Зрэшты, якое праваслаўе з'яўляецца насамрэч «ісцінным», няхай вывучаюць і даказваюць даследчыкі, я гэтага рабіць не збіраюся.

Канешне, можна далучыцца да «раскольнікаў» — Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, якая ладзіць ледзь не падпольныя набажэнствы, альбо перайсці да каталікоў ці грэка-каталікоў, як зрабілі некаторыя мае знаёмыя. Але я перакананa, што перадусім — вера, і толькі пасля царква.

На шчасце, нават у самой БПЦ ёсць яшчэ шэраг святароў і вернікаў, якія адэкватна і крытычна ацэньваюць тое, што адбываецца ўнутры царквы, і спрабуюць зрабіць праваслаўе ў Беларусі сапраўды беларускім. Напрыклад, дамагаюцца богаслужэнняў на беларускай мове (на праваслаўнае Раство ў цэнтры Мінска служылі беларускамоўную святочную літургію, праўда, толькі ў адным храме), ствараюць петыцыі ў падтрымку забароненага ў служэнні святара Аляксандра Шрамко. Больш за тое, як паведамляюць СМІ са спасылкай на канфідэнцыйныя крыніцы, падчас галасавання на мінскім Епархіяльным сходзе, які адбыўся 20 снежня мінулага года, частка святароў выступіла супраць заявы з крытыкай патрыярха Канстанцінопаля.

Усё гэта дазваляе песціць надзею, што праваслаўная царква ў Беларусі мае шанец на незалежнасць. Але проста так Масква нам гэтую незалежнасць не дасць.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Казкі на Раство

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Краіна вяртаецца да працоўнага рытму, але яшчэ не раскачалася да якіх-небудзь вызначальных падзеяў. А таму ўсё, што адбылося на тыдні, звязанае з вонкавымі сітуацыямі.**


www.3ddd.ru

Маштабнай падзеяй, канешне, было атрыманне томаса Украінскай праваслаўнай царквой. Зараз яна з'яўляецца царквой самастойнай і аўтакефальнай. З гэтай нагоды выказаўся мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ў інтэрв'ю напярэдадні Раства Хрыстова на СТБ.

Па яго словах, у Беларусі сёння няма імкнення да аўтакефаліі. «Гучаць часам некаторыя галасы: «А ці не папрасіць і нам у Беларусі?». Але вы ведаеце, цалкам адкрыта трэба сказаць: калі для Украіны гэта страшная трагедыя, спроба навязаць аўтакефалію, калі гэта будзе адбывацца ў Беларусі, то для Беларускай праваслаўнай царквы гэта будзе смерць. Усё. Гэта асуджэнне Беларускай праваслаўнай царквы на знішчэнне. Дзякуй Богу, што сёння епіскапат Беларускай царквы і святары, і практычна ўсе вернікі пра гэта не думаюць», — сказаў Павел.

«Хіба нам дрэнна сёння? Дзякуй Богу, і кіраўнік дзяржавы, і ўрад сёння робяць усё магчымае, каб жылі людзі ў Беларусі ў міры і ў згодзе. Навошта падзел? Каму гэта трэба? Гэта важнае пытанне: каму гэта трэба? Таму, хто хоча падзелу, таму, хто хоча варожасці і нянавісці. Таму будзем спадзявацца, што гэтага ў Беларусі не адбудзецца», — дадаў чалавек, якога ў СМІ называюць кіраўніком БПЦ.

Усе гэтыя словы, выбачайце, — казка на Раство. Па-першае, не існуе ніякай «Беларускай праваслаўнай царквы». Афіцыйна гэтая структура называецца «Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхату Рускай праваслаўнай царквы». А таму казаць пра «смерць БПЦ» у выніку аўтакефаліі не выпадае — не можа памерці тое, чаго няма.

Па-другое, цалкам незразумела, як можна «навязаць» аўтакефалію. Такога не бывае. Людзі — істоты даволі самастойныя. І яны проста не будуць хадзіць у тую царкву, якую ім «навязваюць» і якая ім не падабаецца.

Па-трэцяе, заява Паўла, што ў Беларусі няма імкнення да аўтакефаліі, супярэчыць яго ж словам пра тое, што тэма самакіравання Беларускай праваслаўнай царквы здымаецца на 25–50 гадоў (такую заяву ён зрабіў 19 студзеня 2015 года). А значыць, імкненне да самакіравання і аўтакефаліі ў беларусаў усё ж ёсць?

Панічную казачку нам расказаў расійскі «Газпром». Нібыта, кампанія запусціла марскі тэрмінал звадкаванага газу, які дазваляе пастаўляць газ у Калінінградскую вобласць без транзіту праз Беларусь.

«Увод у эксплуатацыю» рэгазіфікацыйнага тэрміналу звадкаванага прыроднага газу адбыўся 8 студзеня ў Калінінградзе. Тэрмінал пабудаваны ў акваторыі Балтыйскага мора і ўяўляе абаронены прычал, да якога швартуецца плывучая рэгазіфікацыйная ўстаноўка. Гэта першы падобны праект у расійскай энергетыцы.

Уладзімір Пуцін, які назіраў за пускам установкі, заявіў, што дастаўка прыроднага газу на падобныя адлегласці трубаправодным транспартам з'яўляецца эканамічна больш мэтазгоднай. «Але для нас, для Калінінградскай вобласці ў прыватнасці, гэта, хутчэй за ўсё, рэзервовыя магутнасці, якія істотным чынам мінімізуюць, а, дакладней сказаць, зводзяць на нішто ўсе транзітныя рызыкі. Значэнне тэрміналу для энергабяспекі і ўмацавання энергетычнай базы рэгіёну цяжка пераацаніць, у першую чаргу ўлічваючы геаграфічнае становішча Калінінградскай вобласці», — сказаў ён.

Старшыня праўлення «Газпрома» Аляксей Мілер паведаміў Пуціну, што сістэма паставак газу праз магістральны газапровад Мінск — Вільня — Каўнас — Калінінград цалкам адключаная, і газазабеспячэнне Калінінградскай вобласці цалкам ажыццяўляецца праз марскі тэрмінал.

Некаторыя аглядальнікі пачалі панікаваць: Расія ў чарговы раз пазбаўляе Беларусь грошай ад транзіту. Але насамрэч — гэта таксама казачка. Літоўскі бок, а дакладней, міністр энергетыкі Літвы Жыгімонт Вайчунас паведаміў, што цяпер не назіраецца ніякіх парушэнняў доўгатэрміновага дагавора аб транзіце. «У аператара літоўскай газаперадаючай сістэмы ёсць доўгатэрміновы дагавор пра транзіт у Калінінград, і ён да 2025 года. Гэта дамова па формуле «транспартуй або плаці», іншымі словамі, тыя аб'ёмы газу, пра якія дамоўлена да 2025 года, будуць яны транспартавацца ці не будуць, — за гэтыя аб'ёмы павінна быць заплачана. У фінансавым стаўленні і Літва, і аператар нашай перадаючай сістэмы да 2025 года абаронены, таму што менавіта такі дагавор», — сказаў Вайчунас.

Канешне, вызнаў ён, было ментальнае скарачэнне транзіту — для таго, каб праверыць магутнасці калінінградскага тэрміналу і яго інфраструктуру. Але ні пра якія скасаванні дамоваў, і тым больш пра «цалкам адключэнне» транзітных патокаў на Калінінград, як пра тое казаў Мілер, размовы не ідзе.

Цікавую статыстыку выдала самае варожае да Беларусі расійскае ведамства — Рассельгаснагляд. Мы ўвесь год з ім «бадаліся» наконт забароны і адменаў забаронаў беларускай прадукцыі, якая ідзе ў Расію. А зараз ведамства, па выніках дзейнасці сваіх рэгіянальных упраўленняў за 11 месяцаў 2018 года, выдала: патрабаванням ЕАЭС не адпавядала 0,8% беларускай прадукцыі, якія адпраўляюцца ў Санкт-Пецярбург, Ленінградскую і Пскоўскую вобласці.

Менш за працэнт! Менш за працэнт беларускай прадукцыі быў няякасны! Хто-небудзь, у выніку, сумняваецца, што ўсе прэтэнзіі да нас Рассельгаснагляду матываваныя не якасцю прадукцыі, а эканамічна-лабісцкімі матывамі?

І напрыканцы — несуцяшальны прагноз ад Сусветнага банку. Гэтая структура прагназуе запавольненне тэмпаў росту валавога ўнутранага прадукту Беларусі да 2,7% у 2019 годзе і 2,5% — у 2020–2021 гадах, паведамляецца ў студзеньскім аглядзе банка «Перспектывы сусветнай эканомікі. Азмрочаныя перспектывы».

«Для ўстойлівага павышэння ўзроўню жыцця неабходны эканамічныя, сацыяльныя і інстытуцыйныя пераўтварэнні, заснаваныя на ўзмацненні ролі прыватнага сектара, павышэнні эфектыўнасці дзяржаўных прадпрыемстваў і ўмацаванні сістэм сацыяльнай абароны», — заяўляюць эксперты Сусветнага банка.

У прынцыпе, гэта тое, пра што мы дзесяцігоддзямі кажам і без Сусветнага банку.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Анатоль Лябедзька



**Палітык, дырэктар Цэнтра даследаванняў і прагнозаў развіцця «Еўрапейскі дыялог» Анатоль Лябедзька ў сваёй калонцы на сайце naviny.by прапанаваў вылучыць у якасці адзінага дэмакратычнага кандыдата ў прэзідэнты Святлану Алексіевіч!**

Лябедзька лічыць, што Алексіевіч магла б стаць рухавіком зменаў у Выбарчы кодэкс хаця б таму, што нарадзілася па-за межамі Беларусі (на тэрыторыі Украіны) і, згодна з сённяшнім заканадаўствам, не можа быць зарэгістраваная кандыдатам у прэзідэнты.

«Змены ў выбарчым заканадаўстве і ўдзел у саміх выбарах — гэта непадзельныя рэчы. Які сэнс удзельнічаць у выбарах, калі ўсё будзе, як заўсёды? У сувязі з гэтым у людзей малая цікавасць да выбараў, моцнае расчараванне. Трэба дзейнічаць неардынарна, правакацыйна. А то будуць, як і раней, карлікавыя кандыдаты, якіх дазволяць улады. Трэба зламаць загадзя напісаны сцэнар», — тлумачыў «Нашай Ніве» сваю ідэю Лябедзька.

На яго думку, асоба Нобелеўскай лаўрэаткі па літаратуры Святланы Алексіевіч магла б стаць тым штуршком, які б прымусіў многіх задумацца пра недасканалую выбарчую сістэму ў краіне, а таксама аднавіў інтарэс да палітыкі.

«Гэта проста прыгожая фантазія. На жаль, ніхто са мной папярэдне не размаўляў пра гэтую справу. На маю думку, час самадзейнасці прайшоў. І палітыкай павінны займацца менавіта палітыкі. Я пісьменнік і не мыслю сябе ў іншых катэгорыях. Ніколі нават не думала ў такім кірунку, каб пайсці ў палітыку», — пракаментавала гэтую заяву сама Алексіевіч.

## Барыс Бухель



**Праваабаронцу пагражаюць выключыць з грамадскай назіральнай камісіі па захоўванні правоў чалавека ў месцах пазбаўлення волі.**

Членам Магілёўскай абласной ГНК разаслалі ліст начальніка ўпраўлення юстыцыі Аляксандра Маймусава, у якім той выказаў незадаволенасць выступамі Барыса Бухеля. Маймусаў выказаў прэтэнзію, што праваабаронца распавёў пра парушэнне правоў беларускага палітвязня Міхаіла Жамчужнага ў горацкай папраўчай калоніі №9.

«На наступны дзень пасля наведвання папраўчай установы №9 на інтэрнэт-сайце... арганізацыі Праваабарончы цэнтр «Вясна» (spring96.org) была размешчана інфармацыя пра наведванне грамадскімі наглядальнымі камісіямі папраўчай установы №9 з асобнымі цытатамі Бухеля Б.Л., якія не адпавядалі думкам астатніх прадстаўнікоў наглядальных камісій», — пазначана ў лісце Маймусава.

Барыс Бухель наведаў горацкую ПК №9 у сакавіку 2018 года разам са старшынёй абласной ГНК Таццянай Казлоўскай. Акрамя іх у калонію прыбылі і прадстаўнікі рэспубліканскай ГНК разам са сваім старшынёй Таццянай Краўчанка. Пазней Краўчанка заявіла, што ніякіх парушэнняў у горацкай ПК №9 яна і яе калегі не выявілі. На семінары 6 снежня ў Мінюсце ў прысутнасці прадстаўнікоў Савета Еўропы і некалькіх паслоў краін Еўрасаюза Краўчанка схлусіла, што асабіста размаўляла з Жамчужным.

Бухель ліст назваў рэакцыяй на ўсё і адразу: «Гэта рэфлексія па выніках года, я думаю. І на мой выступ на семінары ў Міністэрстве юстыцыі, і на тое, як шчыльна мы спрабуем працаваць з кейсам Міхаіла Жамчужнага. Відавочна, што гэта намёк уладаў на тое, каб я паводзіў сябе, як ім трэба. Вядома, ім не падабаецца, калі кажуць няўрочную праўду. Вясельным генералам, якога водзяць па пацёмкінскіх турэмных вёсках, я не буду», — адрэзаў Бухель.

## Аляксандра Сасновіч



**Беларуская тэнісістка здзейсніла сапраўдны цуд на турніры ў Сіднеі. Яна гуляла з гаспадыняй корту Прысцылай Хон.**

Аўстралійка выйграла першыя восем (!) геймаў сустрэчы. Але Сасновіч перамагла ўсё роўна: 0:6, 6:3, 6:3

У чвэрцьфінале Аляксандра Сасновіч сустрэнецца з Цімеа Башчынскі са Швейцарыі.

Прызавы фонд турніру — 757 900 долараў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# З Новым годам, дарагія сябры!

**Пераход ад «ліхіх дзевяностых» да стабільнасці «нулявых» суправаджаўся мэтанакіраваным забойствам палітыкі, што і прывяло да спынення эканамічнага росту.**

Неяк так атрымалася, што я перастаў успрымаць Новы год у якасці свята. Для «жаўрука» дасядзець без справы да апоўначы — дадатковая праблема. Не назіраць жа за эстраднымі скокамі ў тэлевізары. Я тэлевізар шмат гадоў не гляджу, акрамя футбольных матчаў з удзелам «Манчэстар Юнайтэд», дый за імі ўсё часцей сачу праз інтэрнэт.

Але навагоднія звароты галоўнага персанажа маіх «Азбук паліталогіі» — выключэнне. У мяне да іх прафесійная цікавасць. Беларусь — не Амерыка. Замест дэклараванага ў Канстытуцыі прынцыпу падзелу ўладаў (артыкул 6), па факце мы маем уладную «вертыкаль». Таму любое выступленне кіраўніка «вертыкалі», чые паўнамоцтвы ні чым і ні кім не абмежаваныя, дазваляе многае зразумець у бягучай палітыцы.

Важна падкрэсліць, што гаворка ідзе пра разуменне — і не больш за тое, бо любыя публічныя заявы, кім бы ў краіне яны ні рабіліся, на рэальнае жыццё прыкметна не ўплываюць.

Новы год — свята, пазбаўленае ідэалагічнай нагрузкі. Таму навагоднія звароты адзінага палітыка (АП) пачынаюцца з развагпра самыя лепшыя пачуцці і чаканні, што аб'ядноўваюць родных, сваякоў і сяброў, якія сабраліся за святочнымі сталамі.

Аднак зусім без таго, што па-сапраўднаму набалела, не абыходзіцца. У гэтым годзе да ліку набалелага можна было прадказальна аднесці дзве тэмы: па-першае, развагі пра суверэнітэт і незалежнасць дзяржавы, па-другое, пра мір, які ў чарговы раз удалося захаваць.

Мае чаканні спраўдзіліся. Цытую: «Мы гублялі родных і блізкіх, набывалі новых сяброў, нараджалі і гадавалі дзяцей. Але галоўнае — мы захавалі мірнае неба для беларусаў і ў вачах нашых дзяцей няма страху і безвыходнасці ад вайны».

«Але асаблівую цеплыню сваіх слоў я накіроўваю вам, працаўнікам палёў і заводаў, нашай інтэлігенцыі, абаронцам Айчыны, старэйшаму пакаленню і старым. Усім, хто стварыў на дабрадатнай беларускай зямлі першую суверэнную і незалежную дзяржаву, працягвае тварыць яе сучаснасць. Мы павінны ўмацаваць сваю дзяржаўнасць на прынцыпах сумленнасці і справядлівасці і менавіта такой захаваць краіну для дзяцей і ўнукаў».




## Донар стабільнасці

Займеннік «мы» ў першай цытаце згадваецца двойчы. Але гэта не тоесныя «мы». Звярніце ўвагу на другі сказ: «мы захавалі мірнае неба для беларусаў ...». Гэта значыць, не самі беларусы дамагліся такога выбітнага выніку, а «мы» для беларусаў.

Што ж, калі беларусы ў гэтай справе ўдзелу не прымалі, і мірнае неба — вынік дзейнасці абмежаванай групы асоб, зашыфраванай пад займеннікам першай асобы множнага ліку «мы», дык такое дасягненне тым больш можа прэтэндаваць на званне галоўнага дасягнення года. Вось толькі пра чыіх дзяцей ідзе гаворка? Колькі я ні перачытваў цытату, зразумець так і не змог. Але чые б яны ні былі, я за дзяцей шчыра рады.

Беларусь, калі хто забыўся, прызнаецца краінамі Еўропы ў якасці донара стабільнасці і бяспекі. Прынамсі, міністр замежных спраў Уладзімір Макей у гэтым упэўнены. Донару стабільнасці важна не апынуцца ў ролі шаўца без ботаў. Але, калі меркаваць па адсутнасці страху і безвыходнасці ад вайны ў вачах нашых дзяцей, і ў мінулым годзе Беларусі ўдалося выканаць свае донарскія абавязальніцтвы ў поўным аб'ёме.

Магчыма, з апошняй высновай я паспяшаўся, і дзякаваць за гэта варта не Беларусі і беларусам, а ўсё той жа групе асоб, якія хаваюцца пад займеннікам «мы». Але ці так ужо гэта істотна?

Пяройдзем да аналізу другой цытаты. У поўнай адпаведнасці з савецкім бэкграўндам АП, спіс тых, «хто стварыў на дабрадатнай беларускай зямлі першую суверэнную і незалежную дзяржаву», адкрываюць працаўнікі палёў. Далей ідуць працаўнікі заводаў і наша інтэлігенцыя.

Класічная савецкая трыяда: два класы (рабочыя і сяляне) і паміж імі інтэлігенцыя ў выглядзе праслойкі. На клас яна не цягнула. «Таму, — згодна са справядлівай заўвагай Леніна, — у ёй усё бессістэмна: на кілаграм прыстойных людзей даводзіцца дэкалітр усялякай брыдоты». Ці захаваліся такія суадносіны да нашых дзён — я казаць не бяруся, але ўвесь мой жыццёвы вопыт падказвае, што на істотны зрух на карысць павелічэння колькасці прыстойных людзей разлічваць не даводзіцца.

Любоў да працаўнікоў палёў перадалася АП з малаком маці. І не бяда, што ўклад сельскай гаспадаркі ў ВУП складае сёння каля 7%. Не ў працэнтах справа. Справа ў менталітэце, які быў і застаецца пераважна сялянскім.

Бліжэй да канца спісу размясціліся абаронцы Айчыны. Прычыну, паводле якой яны згаданыя, мяркую, не трэба тлумачыць. А што да старэйшага пакалення і старых — куды ж без іх напярэдадні чарговай электаральнай «вакханаліі»? Гэта яны, як неаднаразова адзначалі незалежныя сацыёлагі, стварылі і працягваюць ствараць дзяржаўнасць, якая абапіраецца не на правы, а на сумленнасць і прыстойнасць. Такую вось архаічную дзяржаўнасць!

**1990-я гады былі «ліхімі», але без гэтай ліхасці не ўпала б «жалезная заслона», не быў бы прыняты Закон аб кааперацыі, які адкрыў шлях для прыватнай ініцыятывы. Калі б не 1990-я, мы б і сёння душыліся ў чэргах па хлеб і гнілую бульбу**

## Чым небяспечная буржуазія

Чарговым разам у спіс творцаў беларускай дзяржаўнасці не патрапілі прадпрымальнікі. Падказку, якая раскрывае прычыну парадоксу, можна адшукаць у Маніфесце камуністычнай партыі Маркса і Энгельса (1848 года): «Буржуазія адыграла ў гісторыі надзвычай рэвалюцыйную ролю. Буржуазія, паўсюль, дзе яна дасягнула панавання, разбурыла ўсе феадальныя, патрыярхальныя, ідылічныя адносіны. Бязлітасна разарвала яна стракатыя феадальныя путы, якія звязвалі чалавека з яго «натуральным уладаром», і не пакінула паміж людзьмі ніякай іншай сувязі, акрамя голага інтарэсу, бяссардэчных грошай».

Ліміт рэвалюцый у Беларусі, як гэта неаднаразова тлумачыў нам АП, народ вычарпаў яшчэ ў мінулым стагоддзі. Таму сучасныя буржуа, якія хаваюцца пад маскай прадпрымальнікаў, з іх надзвычай рэвалюцыйнай роляй, уяўляюць смяротную пагрозу для «беларускай мадэлі».

Галоўная задача буржуазных рэвалюцый, як паказвае сусветны досвед, палягае ў ліквідацыі феадальных і патрыярхальных адносін, што служылі бар'ерам на шляху капіталістычнага развіцця. А іншага развіцця да ўтварэння СССР сусвет і не ведаў.

Здавалася б, пасля краху савецкага праекта час прадпрымальнікаў прыйшоў і на 1/6 частцы сушы. У краінах Балтыі так яно і здарылася. І зусім не выпадкова на постсавецкай прасторы толькі Літва, Эстонія і Латвія апярэдзілі ў 2018 годзе Расію па ВУП на душу насельніцтва паводле парытэту пакупніцкай здольнасці ($ 33446, $ 32588, $ 29101 vs. $ 26527). Але хто, дзе і калі чуў, каб АП выступаў за капіталістычнае развіццё?

У адрозненне ад СССР, прыватная ініцыятыва ў Беларусі ўжо не лічыцца крымінальным злачынствам. Больш за тое, усе поспехі ў эканоміцы (ад рознічнага гандлю да IT) дасягнутыя дзякуючы прыватніку, а не «дзяржаве для народа» ў асобе постсавецкай наменклатуры.

## Архаіка на маршы

1990-я гады мінулага стагоддзя, безумоўна, былі «ліхімі», але без гэтай ліхасці не ўпала б «жалезная заслона», не быў бы прыняты Закон аб кааперацыі, які адкрыў шлях для прыватнай ініцыятывы ў эканоміцы. Калі б не 1990-я гады, беларусы і сёння душыліся б у чэргах не па «гумавую» каўбасу, а па хлеб і гнілую бульбу.

Нямецкі эканаміст Вернер Зомбарт увёў у навуку, а аўстрыйскі эканаміст Ёзэф Шумпетэр папулярызаваў паняцце «стваральнае разбурэнне». Працэс стваральнага разбурэння з'яўляецца ключавым для капіталізму. Гэта дзякуючы яму бесперапынна ствараюцца новыя тавары, новыя метады вытворчасці, новыя рынкі і новыя формы індустрыяльнай арганізацыі. І галоўным суб'ектам зменаў выступае, натуральна, прадпрымальнік.

Але для паўнавартаснай правы сваёй суб'ектнасці прадпрымальнік мае патрэбу ў канкурэнтным асяроддзі. І не толькі ў эканамічнай сферы, але і ў палітычнай. Прычым у другой нават больш, чым у першай, бо падтрыманне канкурэнцыі ў эканоміцы магчымае толькі за кошт канкурэнцыі ў палітыцы.

У Беларусі пераход ад «ліхіх дзевяностых» да стабільнасці «нулявых» суправаджаўся мэтанакіраваным забойствам палітыкі. Палітыка памерла, а разам з ёй спыніўся эканамічны рост, што і пацвярджаецца марнасцю намаганняў урада адшукаць новыя драйверы эканомікі.

Сёння мы назіраем архаіку на маршы, і ўзначальвае гэты марш дзяржава, што мудрагеліста спалучае ў сабе феадальныя і сучасныя элементы. І ўсё ж колькі б сучаснасці ў гэтую дзяржаўную бочку ні дадавалася, і адной лыжкі феадалізму ў выглядзе непадкантрольнай улады хапае для яе нейтралізацыі.

***

Феадалізм пакінуў нам у спадчыну формулу «васал майго васала — не мой васал». У Беларусі з яе ўладнай «вертыкаллю» яна не прыжылася, што і зафіксавана ў Канстытуцыі ўзору 1996 года. Аднак, нягледзячы на такі архаічны факт, я дазволю сабе скончыць гэту «Азбуку паліталогіі» фінальным сказам са звароту АП: «З Новым годам, дарагія сябры!»






Фота аўтара



# Чарнобыльская зона адпачынку

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У Беларусі адкрыўся новы від экстрэмальнага турызму. Днямі з Гомеля ў радыяцыйны запаведнік выправілася першая турыстычная група.**



## Доўгі шлях у беларускую зону

У лістападзе ўступіла ў сілу новае палажэнне аб Палескім дзяржаўным радыяцыйна-экалагічным запаведніку (ПДРЭЗ). Згодна з ім, цяпер у зону адчужэння дазваляецца арганізоўваць экскурсіі. Раней такая дзейнасць на тэрыторыі ПДРЭЗ была забароненая.

Асаблівая цікаўнасць да Чарнобыльскай зоны была заўсёды. Паглядзець на «жыццё пасля Чарнобылю» хацелі не толькі беларусы, але і грамадзяне далёкага і блізкага замежжа. Аднак задаволіць сваю цікаўнасць яны маглі толькі на ўкраінскім баку. Гамяльчанін Пётр Філон з 2013 года вазіў групы турыстаў па ўкраінскай зоне адчужэння. Людзі прыляталі за тысячы кіламетраў, каб пабачыць на свае вочы наступствы адной з найвялікшых тэхнагенных катастроф ХХ стагоддзя. У Гомель для гэтага прыязджалі турысты з Расіі, Казахстана, Ізраіля, ЗША, Чылі, Паўднёвай Карэі і амаль усіх еўрапейскіх краін. Групы наведвалі ЧАЭС і сумна знакаміты рэактар, горад-прывід атамшчыкаў Прыпяць, закінутыя вёскі. У пустых дамах яшчэ можна было знайсці пакінуты проста на стале посуд, дзіцячыя рэчы і цацкі.

Аднак з пэўнага часу прадпрымальніцкая дзейнасць ускладнілася. Арганізатары з Беларусі пачалі скардзіцца, што з гэтай восені спісы іх турыстаў украінскі бок усё часцей перастаў узгадняць. Гэта тычылася як грамадзян Расіі, так і беларусаў. Магчыма, гэта было следствам росту напружанасці паміж Расіяй і Украінай або з нейкай іншай прычыны.

## Чужы прыклад чарнобыльскага турызму — заразлівы?

Увесь гэты час зона адчужэння ў Беларусі заставалася закрытай для звычайных наведвальнікаў. Пры гэтым не таямніца, што паездкі туды ўсё роўна здзяйсняліся. Зону любілі наведваць гомельскія «сталкеры», вазілі туды і замежных турыстаў. Зразумела, нелегальна. «Нелегалы» распавядаюць, што адным разам у сяле Пагонным знайшлі святочныя першамайскія транспаранты. Мабыць, рыхтавалі на 1 мая таго самага 1986 года. Дый так і прыйшлося кінуць...

Пры гэтым пры несанкцыянаваным наведванні радыяцыйнай тэрыторыі заўсёды існавала верагоднасць нарвацца на патруль міліцыі і сплаціць вялікі штраф.

Магчымасць адкрыцця беларускай зоны адчужэння для турыстаў стала разглядацца ў 2017 годзе. Тады на канферэнцыю ў Хойнікі быў запрошаны заснавальнік «Чарнобыль-Тур» Сяргей Мірны — для першага дакладу пра поспехі чарнобыльскага турызму ва Украіне. Абмеркаванне магчымасці доўжылася дастаткова доўга, указ быў падрыхтаваны ўвесну 2018 года. І падпісаны 6 лістапада. Адным з пунктаў указа быў дазвол турызму. І неўзабаве першы беларускі тураператар павёз туды сваю групу.

— Магчымасці арганізацыі экскурсій у нашу зону адчужэння я пачаў вывучаць з 2014 года, калі ўпершыню наведаў такія тэрыторыі ў Добрушскім раёне. Але раней гэта было забаронена. І вось цяпер — дазволілі. Не паверыце, але першая група ў чарнобыльскую зону сфармавалася за 30 хвілін! — распавядае Пётр Філон.

Групу «піянераў» беларускага чарнобыльскага турызму склалі пераважна нашы грамадзяне. Але ўсё ж яна была міжнароднай — у яе паспела запісацца і адна дзяўчына з Санкт-Пецярбурга. Экскурсія ў «беларускі Чарнобыль» праходзіла з суправаджэннем работнікаў ПДРЭЗ. Яны далі аўтобус, абсталяваны ў абавязковым парадку радыёстанцыяй, яны ж забяспечвалі і бяспеку. Турыстаў суправаджаў намеснік дырэктара запаведніка па навуковай частцы.

Першая экскурсія ў беларускай зоне праходзіла па тэрыторыі Хойніцкага раёна. Турысты наведалі пустуючыя вёскі Краснаселле, Бабчын, Дронькі і Пагоннае. Пабадзяліся па руінах закінутага завода.

Ва ўкраінскай зоне адным з «цвікоў праграмы» былі прыручаныя лісы. Гэтыя разумныя жывёлы не толькі навучыліся выпрошваць у людзей ежу, але і нават сцямілі, як гэта лепш рабіць. Рудыя звяркі здагадаліся... пазіраваць перад фотакамерамі. І тут цалкам рэальна можна было правесці фотасесію ледзь не ў абдымкі з ляснымі жыхаркамі ў рудым футры. Людзей пры гэтым лісы зусім не баяліся.

Асаблівасць жа беларускай «чарнобыльскай» тэрыторыі — дрымучыя лясы, што раскінуліся ў даліне Прыпяці. На беларускім баку лес прыняў амаль што першапачатковы выгляд. Такімі, магчыма, былі старажытныя пушчы ў часы радзімічаў і дрыгавічоў. Таксама адбылося другаснае забалочванне некалі асушаных балот. Лес — родны дом для мноства дзікіх жывёл. І пасля адсялення адсюль людзей менавіта спрадвечныя лясныя насельнікі, здаецца, адчулі сябе ў сваім «доме» паўнапраўнымі гаспадарамі. Вялікую цікавасць уяўляе гадавальня зуброў, дзе можна блізка разгледзець гэтага старажытнага магутнага звера. Зубры прыходзяць з раніцы да месца, дзе супрацоўнікі запаведніка кормяць іх. Група ледзь паспявала да «зубрынага сняданку», але турыстам пашанцавала — пара дарослых зуброў затрымалася, каб пакарміць маленькае зубраня. І ўсе экскурсанты фатаграфавалі гэтую сямейную ідылію. Калі зубры сышлі, усе фотакамеры пераключыліся на мясцовага «ляснога» ката.

Акрамя магутных рагатых волатаў, у «чарнобыльскіх» пушчах можна пабачыць мноства іншых дзікіх звяроў. Гомельскія экскурсанты за час свайго візіту сутыкнуліся з ласямі, бачылі статак дзікоў. Водзяцца ў палескай глухмені і ваўкі, і мядзведзі, і рысі. Саміх драпежнікаў гэтым разам убачыць не атрымалася, але ваўчыных слядоў навокал хапала.

Падлічана, што ў зоне жыве каля 1800 ласёў і 150–180 ваўкоў. Шэрыя драпежнікі падзялілі зону на тры арэалы, і ні адна ваўчыная зграя не заходзіць на чужую тэрыторыю.

Наколькі бяспечныя туры ў чарнобыльскую зону? Бо радыяцыю нельга паспытаць на смак і вызначыць па колеры, але яна нябачна прысутнічае. Наш суразмоўца кажа, што пры захаванні ўсіх належных мер засцярогі ніякай шкоды ад кароткачасовага знаходжання не будзе. Групы ходзяць у зоне па адносна свежых бяспечных месцах. Пры гэтым радыяцыйны фон па маршруце перамяшчэння пастаянна кантралюецца дазіметрам.

Але ці можна тады назваць гэты від турызму экстрэмальным? Гамяльчанін лічыць, што можна:

— Усюды прысутнічаюць нябачныя пагрозы. Перш за ўсё, неабходна выконваць строгія правілы радыяцыйнай бяспекі. Таксама заўсёды ёсць верагоднасць сустрэчы з дзікімі жывёламі. Тыя ж зубры па-за вальерамі вельмі небяспечныя — асабліва з улікам таго, што не бачылі ніколі столькі людзей. Ваўкі вакол нікім не палоханыя, яны — самыя грозныя драпежнікі. Няма мабільнай сувязі, таму туры будуць весціся на машынах ПДРЭЗ з радыёстанцыямі. У лясных нетрах нельга выкарыстоўваць звычайны транспарт — толькі поўнапрывадныя УАЗы, — тлумачыць Філон.

Філон кажа, што калі ехалі на «старык» Прыпяці («старык» — так на Гомельшчыне называюць старое рэчышча ракі), ён зразумеў, чаму не дазволілі выкарыстоўваць яго машыну — яна б абавязкова захрасла ў гэтых пясках і гушчарах.

## Урок экалагічнай свядомасці

А як справа з этычным бокам? Бо, па-сутнасці, турысты прыязджаюць паглядзець у зону сляды вялізнай бяды і запусцення. Філон кажа:

— Адкрыццё нашай зоны для наведванняў з азнаямляльнымі мэтамі — важны крок у пераадоленні наступстваў аварыі на ЧАЭС у Беларусі. І вельмі наглядны сродак развіцця экалагічнай свядомасці і грамадзянскай адказнасці. Бо, пабачыўшы наступствы той страшнай аварыі, чалавек можа непасрэдна ўявіць, якія вынікі здольных прынесці тэхнагенныя катастрофы ў наш час. З іншага боку, людзі могуць пазнаёміцца тут з унікальнай прыродай, якая жыве без чалавека. Прырода цалкам аднавілася ад уздзеяння чалавечай цывілізацыі за 30 гадоў, якія прайшлі пасля аварыі.

Ці ёсць розніца паміж наведваннем беларускай і ўкраінскай радыяцыйных тэрыторый? Гомельскі арганізатар тураў кажа:

— Ва ўкраінскую зону адчужэння беларускім тураператарам праграмы цяпер не падпісваюць. Толькі ў мяне ў гэтым годзе было 15 адмоваў, і часта даводзіцца звяртацца па старонннюю дапамогу. Дакладна такая ж сітуацыя складваецца і з адзінымі знешнімі арганізатарамі тураў ва ўкраінскую зону. А вось з беларускай адміністрацыяй усё вырашна і арганізавана. Сітуацыю з разваротам на КПП турыстаў, якія прыляцелі за 2000 кіламетраў дзеля экскурсіі і маюць праграму ў Беларусі, можна выключыць на 100 працэнтаў.

Філон кажа, што ў гэтым годзе такі выпадак адбыўся з групай з Ізраіля. Адміністрацыя зоны на ўкраінскім баку памянялася нядаўна. А вось працаваць з ранейшым кіраўніцтвам украінскай зоны беларускаму тураператару было лёгка і проста.

— Ад экскурсійных паездак да 2018 года засталіся толькі самыя пазітыўныя ўспаміны, — усміхаецца гамяльчанін.

Такім чынам, у найбліжэйшай будучыні магчыма актыўнае развіццё турызму ў беларускую чарнобыльскую зону. Плануецца таксама шырокае прыцягненне замежных гасцей. Гэта можа прынесці досыць адчувальныя матэрыяльныя дывідэнды як тураператарам, так і дзяржаве. Але самае галоўнае — ці варта спадзявацца, што падобныя экскурсійныя праграмы дапамогуць людзям усвядоміць, якім далікатным і ўразлівым з'яўляецца наша асяроддзе? І як шмат залежыць ад кожнага з нас, каб зберагчы нашу прыроду і зрабіць гэты свет бяспечным?

# У ПАСТКУ, альбо Што было да Пуціна

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**На фоне чарговага абвастрэння беларуска-расійскіх адносін, шавіністычнага выбуху ў сродках масавай інфармацыі ўсходняй суседкі, варта зрабіць адпаведную гістарычную рэтраспектыву.**

Дэпутацкі клуб «ЛіМа»
Аляксандр ЛУКАШЭНКА:
«ЗАБРАЦЬ УЛАДУ Ў ТЫХ, ХТО НЕ ЎМЕЕ ЁЙ КАРЫСТАЦЦА»

Пасля распаду СССР і да прыходу «новага збіральніка рускіх земляў» Уладзіміра Пуціна намаганні Расіі былі накіраваны на тое, каб надзейна ўтрымаць Беларусь у сферы сваіх інтарэсаў і падрыхтаваць глебу для далейшай інкарпарацыі. На жаль, беларускае афіцыйнае кіраўніцтва не аднойчы давала для гэтага шмат падстаў.

### «Чым дапамагчы, Слава, чым дапамагчы?»

Адным з заўзятых апалагетаў збліжэння з Расіяй быў кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч. Найбольш канцэнтравана Вячаслаў Францавіч выказаўся наконт гэтага пытання ў артыкуле «Беларусь: проблемы модернизации (ответ оппонентам)», які быў надрукаваны ў цэнтральнай прэсе ў чэрвені 1994 года, якраз напярэдадні першых прэзідэнцкіх выбараў. Тады Кебіч назваў саюз з Расіяй сваім «нравственным кредо». І сапраўды, знешняя палітыка Кебіча мела на мэце шчыльную інтэграцыю з Расіяй літаральна ва ўсіх сферах.

Дастаткова прыгадаць падпісаныя 20 ліпеня 1992 года ўрадамі Беларусі і Расіі шэраг пагадненняў у фінансава-эканамічнай сферы (падрыхтоўка да адзінай грашовай сістэмы і інш.), а таксама дамову аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне і пагадненне аб стратэгічных сілах, часова размешчаных на тэрыторыі Беларусі. Згодна з апошнім дакументам, усе стратэгічныя сілы, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі, з усёй маёмасцю пераходзілі пад юрысдыкцыю Расійскай Федэрацыі. Яна фінансавала выдаткі на ўтрыманне сваіх Узброеных Сіл разам з забеспячэннем і ўтрыманнем ваенных гарадкоў, аднак не плаціла Беларусі ніякай арэнды за занятыя тэрыторыі (пакет беларуска-расійскіх дакументаў у ваеннай галіне быў ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі 12-га склікання ў пачатку лютага 1993 года).

Дэпутацкая большасць у Вярхоўным Савеце была таксама арыентаваная на Расію і ішла на небяспечныя авантурныя дзеянні. 9 красавіка 1993 года Вярхоўны Савет прыняў пастанову, чацвёрты пункт якой ускладаў на старшыню парламента Станіслава Шушкевіча абавязак пацвердзіць далучэнне Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бяспецы ад 15 мая 1992 года, падпісанай у Ташкенце. Праўрадавыя дэпутаты ў Вярхоўным Савеце дамагліся таго, каб пастанова прымалася не дзвюма трацінамі галасоў, а простай большасцю, што істотна палегчыла яе зацвярджэнне.

Пункт 4, праўда, змяшчаў агаворку пры далучэнні Беларусі да Ташкенцкай дамовы: выкарыстанне Узброеных Сіл РБ, размяшчэнне і выкарыстанне войскаў іншых дзяржаў на тэрыторыі Беларусі былі магчымыя толькі з дазволу Вярхоўнага Савета Беларусі.

Найбольш паслядоўна супраць ваеннага саюзу з Расіяй выступіла парламенцкая апазіцыя БНФ. Яна абвінаваціла Кебіча і дэпутацкую большасць у парушэнні нейтралітэту краіны, што гарантавала Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце ад 27 ліпеня 1990 года.

Аднак урад Кебіча ішоў далей. 8 верасня 1993 года Кебіч і кіраўнік расійскага ўрада Віктар Чарнамырдзін падпісалі пагадненне пра аб'яднанне грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Федэрацыі. Згодна з пагадненнем, Беларусь і Расія павінны былі стварыць умовы для аб'яднання да 1 студзеня 1994 года, прычым Нацыянальны банк Беларусі і Цэнтральны банк Расіі захоўвалі аднолькавыя правы.

18 лістапада 1993 года пагадненне было ратыфікаванае. З 255 удзельнікаў галасавання праект пастановы аб ратыфікацыі падтрымалі 207 парламентарыяў пры кворуме ў 173 галасы. Супраць ратыфікацыі выказаліся ўсяго 25 дэпутатаў. Сярод іх быў народны дэпутат Віктар Алампіеў. Ён казаў: «Для меня ясно, что объединение денежных систем Республики Беларусь и России, которое тут названо высшей формой экономической интеграции, это не что иное, как ликвидация государства Беларусь. Я не стану вас переубеждать, прошу только обратить внимание на некоторые аспекты гармонизации наших законодательств...

...О реформах. Россия уже два года проводила реформы. Наше правительство реформы имитировало, и вы это хорошо знаете. А теперь представьте себе, если поставить на одну беговую дорожку тренированного человека и человека, который не тренировался, и заставить их пробежать одну и ту же дистанцию, допустим, с максимальной возможностью тренированного человека. Может произойти летальный исход. То же произойдёт с нашей экономикой, если мы сегодня гармонизируем наше законодательство, потому что наша экономика отстала в экономических реформах и в темпах реформ от России».

Падтрымаць ратыфікацыю, перастаць «играть в национализм» заклікаў дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Перад пачаткам галасавання Вячаслаў Кебіч заявіў: калі няма даверу, то няхай дэпутаты створаць назіральную камісію, каб туды ўвайшлі спецыялісты.

Вячаслаў Кебіч імкнуўся заручыцца падтрымкай Расіі, бо меў жаданне забяспечыць сабе палітычную будучыню. Заканчваліся паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання, які, нарэшце, падышоў да вырашэння важнага пытання — прыняцця новай Канстытуцыі, якая ўводзіла пасаду прэзідэнта, кіраўніка выканаўчай улады.

1 сакавіка 1994 года ў выступе перад дэпутатамі Кебіч заявіў, што Расійская Федэрацыя — наш апраўданы і гістарычны выбар: маўляў, няма альтэрнатывы «общности белорусской и русской культуры».

12 красавіка 1994 года Кебіч зрабіў, бадай, самы важкі і рашучы крок у сваім палітычным жыцці: разам з расійскім прэм'ер-міністрам Віктарам Чарнамырдзіным ён падпісаў дамову аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі і ўмовах фармавання адзінай грашовай сістэмы. Тэарэтычна, дамова прадугледжвала ўвядзенне на тэрыторыі абедзвюх краін адзінага плацежнага сродку — расійскага рубля. Прычым абменны курс, прапісаны ў дамове, быў выгадны беларусам, улічваючы няўстойлівасць беларускага рубля і высокія тэмпы інфляцыі ў краіне. Наяўныя грошы беларускіх грамадзян у суме да 200 тысяч разліковых білетаў, а таксама іх банкаўскія ўклады да 1 мільёна разліковых білетаў абменьваліся па курсе 1:1.

Згодна з дамовай, адзіным эмісійным цэнтрам быў Цэнтрабанк Расіі, што было відавочным парушэннем беларускай Канстытуцыі. Супраць выступіў кіраўнік беларускага Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, а Кебіч пачаў «прашчакаць» ідэю змены артыкула 148 Канстытуцыі, паводле якой адзіным эмісійным цэнтрам на тэрыторыі Беларусі з'яўляўся Нацбанк Рэспублікі Беларусь.

Праўрадавыя СМІ падалі падпісанне дамовы як выдатную перамогу беларускай знешняй палітыкі. «Белорусская нива» 15 красавіка выступіла з перадавіцай «Победа здравого смысла». Цікава, што дзяржаўныя выданні, расхвальваючы дамову, устрымаліся ад яе публікацыі. Тэкст надрукавала недзяржаўная газета «Белорусский рынок».

За падпісанне дамовы парламенцкая апазіцыя БНФ рэзка крытыкавала Кебіча. Парламентарыі абвінавацілі яго ў антыдзяржаўнай дзейнасці і здрадзе беларускай Канстытуцыі. Адзін з вядомых дзеячаў апазіцыі нават заявіў, што за падобныя ўчынкі прадугледжана смяротнае пакаранне.

27 красавіка 1994 года дамова аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі была ратыфікаваная Вярхоўным Саветам Беларусі.

Пры абмеркаванні пытання першы намеснік Кебіча Міхаіл Мясніковіч абвясціў «генеральный курс на союз с Россией». Па словах Мясніковіча, «союз с Россией дает нам грандиозный исторический шанс, и упустить его — значит, совершить преступление перед своим народом и будущими поколениями».

Прадстаўнік апазіцыі БНФ Юрый Беленькі назваў гэтую дамову не інтэграцыяй, а звычайнай палітыкай каланіялізму.

Прапанова дэпутата Апазіцыі БНФ Валянціна Голубева пра ўнясенне ў парадак дня пытання аб парушэнні Канстытуцыі

**Далёка не ўсе былі задаволеныя візітам Ельцына ў Мінск 21 лютага 1995 года.** Крыніца: "Свабода", люты 1995 года

пры падпісанні дамовы была адрынутая.

Дэпутат Лукашэнка заклікаў сваіх калегаў без ваганняў ратыфікаваць дамову. Па яго словах, акрамя Расіі ў Беларусі толькі адзіны шлях — у космас.

У перадвыбарчай барацьбе за пасаду прэзідэнта (выбары былі прызначаныя на 23 чэрвеня 1994 года) Лукашэнка ўсяляк імкнуўся выбіць расійскі казырны фактар з рук Кебіча. Лукашэнка сцвярджаў, што дамова ад 12 красавіка 1994 года — фікцыя, што з Кебічам у Маскве больш ніхто не жадае размаўляць.

Аднак афіцыйная Расія да апошняга моманту падтрымлівала Кебіча. Пра гэта сведчыць закрытая нарада з удзелам беларускага прэм'ер-міністра 5 чэрвеня 1994 года ў Полацку. У размове з мясцовым палітычным і гаспадарчым актывам Кебіч прызнаў, што яму тэлефанавалі з Масквы і пыталіся: «Чым дапамагчы, Слава, чым дапамагчы?».

Пасля няўдалага выніку выбараў 23 чэрвеня 1994 года Кебіч, тым не менш, працягваў эксплуатаваць расійскае пытанне і меў знешнюю падтрымку. 3 ліпеня 1994 года ў Заслаўі ён разам з Віктарам Чарнамырдзіным падпісаў пратакол аб рэалізацыі дамовы ад 12 красавіка. Паводле пратакола, напрыклад, да канца ліпеня бягучага года павінен быў быць распрацаваны механізм абмену беларускіх разліковых білетаў на расійскія рублі. Тады ж у Заслаўі было падпісана беларуска-расійскае пагадненне пра сумесныя дзеянні па мінімізацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На гэта Расія выдаткоўвала 2 мільярды рублёў.

Аднак 10 ліпеня 1994 года ў другім туры прэзідэнцкіх выбараў перамог Лукашэнка. Маскве трэба было мецъ справы з новым беларускім кіраўніком.

### Пачатак экспансіі

У першыя месяцы пасля перамогі Лукашэнкі ў расійскага кіраўніцтва не было выразнай пазіцыі да новага беларускага лідара, нягледзячы на сустрэчу Лукашэнкі і Ельцына ў жніўні 1994 года і абяцанні апошняга ўсяляк падтрымліваць Беларусь. Для Масквы было галоўным, што да ўлады ў суседняй краіне не прыйшоў «нацыяналіст» кшталту лідара БНФ Зянона Пазьняка (у студзені 1994 года надрукаваў свой рэзанансны артыкул «О русском империализме и его опасности»).

Усё змянілася ў канцы 1994 года. Тады Расія распачала вельмі няўдалую для сябе Чачэнскую вайну. Напэўна, Ельцын зразумеў, у якую авантуру ўлез, але было позна. Таму, каб неяк нейтралізаваць паразы на чачэнскім кірунку Ельцын зірнуў на Беларусь. Тым больш, што ў 1996 годзе ў Расіі павінны былі прайсці прэзідэнцкія выбары, а гульні з Беларуссю маглі б падвысіць Ельцынскі рэйтынг, які істотна падаў.

У пачатку студзеня 1995 года ў Мінску высадзіўся расійскі дэсант: прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін, міністр замежных спраў Андрэй Козыраў, старшыня Савета Федэрацыі Уладзімір Шумейка... Вынікам стала падпісанне 6 студзеня 1995 года пагаднення пра стварэнне Мытнага саюза.




**Мітынг на плошчы Незалежнасці ў Мінску падчас ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларусі 12-га склікання дагавора аб стварэнні СНД, 10 снежня 1991 года.** Крыніца: «Свабода», снежань 1991 года



**На пасяджэнні Цэнтрвыбаркама для рэгістрацыі кандыдатаў Зянон Пазьняк Вячаславу Кебічу рукі не падаў, а Аляксандр Лукашэнка «задаволіўся двума пальцамі Вячаслава Францавіча», пісала газета «Свабода» ў 1994 годзе.**
Фота: газета «Свабода», 1994 год

Трэцяга лютага 1995 года Беларусь наведаў кіраўнік Дзярждумы Расіі Іван Рыбкін, які выступіў у Вярхоўным Савеце. Парламенцкая апазіцыя БНФ рашуча выказалася супраць выступлення расійскага госця — прадстаўніка краіны, якая знаходзілася ў стане вайны. Але кансерватыўная парламенцкая большасць усё ж дала слова Рыбкіну, які казаў пра супольныя гістарычныя карані беларускага і расійскага народаў, неабходнасць інтэграцыі, збліжэння заканадаўства. Закрануў спікер расійскай Дзярждумы і тэму Чачэнскай вайны. Ведаючы, што Расія сама яе развязала, Рыбкін па-фарысейску сцвярджаў, што «на юге России поселилось средневековье».

Такія візіты былі своеасаблівай артпадрыхтоўкай для прыезду Ельцына ў Беларусь. Візіт адбыўся 21 лютага 1995 года. У гэты ж дзень у Мінску была падпісана беларуска-расійская дамова пра сяброўства, добрасуседства і супрацоўніцтва. За агульнымі словамі хаваліся сапраўдныя памкненні Расіі: напрыклад, захаваць на тэрыторыі Беларусі свае ваенныя базы (21 лютага 1995 года сябар парламенцкай апазіцыі БНФ Валянцін Голубеў перадаў у Вярхоўны Савет больш за 800 подпісаў жыхароў г. Ганцавічы Брэсцкай вобласці, сабраных пад патрабаваннем закрыць расійскі ваенны аб'ект «Баранавічы»).

Безумоўным пашырэннем расійскага ўплыву на Беларусі можна лічыць рэферэндум 14 мая 1995 года, які ініцыяваў Лукашэнка. На рэферэндуме быў зацверджаны дзяржаўны статус рускай мовы, а таксама пытанне пра ўхваленне палітыкі беларускага кіраўніка, накіраванай на эканамічную інтэграцыю з Расіяй. Увогуле, ухваленне такога пытання — юрыдычны нонсэнс, бо гэта норма наўпроставаага дзеяння.

11 красавіка 1995 года пры абмеркаванні гэтых пытанняў рэферэндуму дэпутат Генадзь Маісееў спытаў Лукашэнку, ці не баіцца той застацца ў ролі расійскага губернатара. Адказ Лукашэнкі быў красамоўным: «Республика есть и будет, что бы там не говорили руцкие-жириновские».

Сам Лукашэнка сцвярджаў, што ўхваленне пытання пра эканамічныя адносіны з Расіяй — жыццёва неабходнае: «Мы на Западе никому не нужны. Кому нужен МАЗ, кому нужен БелАз? Ведь сегодня на Беларусь смотрят как на центр славянского мира, откуда может пойти возрождение этого славянства!».

З пачаткам 1996 года і набліжэннем прэзідэнцкай кампаніі ў Расіі адносіны Масквы і Мінска актывізаваліся. 22 сакавіка 1996 года Вярхоўны Савет Беларусі наведала расійская дэлегацыя на чале з кіраўніком Савета Федэрацыі Ягорам Строевым. Апошні аддаў «честь и хвалу» Лукашэнку, які «выступает как возмутитель спокойствия на просторах СНГ». Строеў заявіў, што нічога на свеце няма лепш за беларускія трактары і шыны, і падараваў беларускім дэпутатам карціну «Храм Христа Спасителя».

**Ельцын і Лукашэнка рыхтавалі падпісанне дагавора пра ўтварэнне супольнасці Беларусі і Расіі з мэтай пераходу на больш высокую ступень інтэграцыі (так было заяўлена афіцыйна). У дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія былі ў апазіцыі да Лукашэнкі, узніклі натуральныя пытанні наконт мэтазгоднасці гэтай супольнасці**

Ельцын і Лукашэнка рыхтавалі падпісанне дагавора пра ўтварэнне супольнасці Беларусі і Расіі з мэтай пераходу на больш высокую ступень інтэграцыі (так было заяўлена афіцыйна). У дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13 склікання, якія былі ў апазіцыі да Лукашэнкі, узніклі натуральныя пытанні наконт мэтазгоднасці гэтай супольнасці. 27 сакавіка 1996 года Віктар Ганчар запытаў: калі супольнасць не пераследуе палітычныя мэты, навошта яна? Іншыя пытанні — мытныя, грашовыя — па словах Ганчара, прапісаны ў папярэдніх дамоўленасцях, у тым ліку і ў Белавежскіх пагадненнях. Анатоль Лябедзька ўвогуле сцвярджаў, што супольнасць пагражае беларускай незалежнасці, і пытаўся: ці не давядзецца Лукашэнку неўзабаве ўзначаліць партызанскі атрад на Шклоўшчыне.

Лукашэнка эмацыйна адказваў дэпутатам, што супольнасць — «кость в горле радикалов и политических спекулянтов», а яна патрэбна, каб «адаптироваться к бешеным ценам на энергоресурсы».

Паколькі Вярхоўны Савет Беларусі 13-га склікання быў, па сутнасці, «чырвона-зялёным» (у ім гаспадарылі камуністы і аграрыі), то Лукашэнка быў падтрыманы. 29 сакавіка 1996 года Вярхоўны Савет зацвердзіў пастанову, у якой ухваляліся намаганні Лукашэнкі на інтэграцыю з Расіяй і краінамі СНД.

Фармат гэтай пастановы, праўда, не задаволіў найбольш гарачыя галовы. Кіраўнік фракцыі камуністаў Калякін выказваў незадавальненне: нягледзячы на намаганні камуністычнай фракцыі, не ўдалося паставіць пытанне пра палітычную і маральную ацэнку дзеянняў вышэйшых службовых асобаў, якія ў снежні 1991 года падпісалі Белавежскія пагадненні.

2 красавіка 1996 года пагадненне пра супольнасць Беларусі і Расіі было падпісана. З тэксту можна зрабіць выснову пра тэхнічны характар супольнасці: шматлікія пытанні, агучаныя ў тэксце, можна было вырашыць нават на ўзроўні міністэрстваў і ведамстваў.

Тым не менш, дагавор аб супольнасці адыграў сваю ролю. Ельцыну гэта давала магчымасць рэабілітавацца за развал Саюза і залагодзіць комплекс віны, а Лукашэнку — пашырыць свой уплыў у расійскіх рэгіёнах, кантактаваць з губернатарамі.

Незалежныя эксперты і СМІ казалі, што з дапамогай інтэграцыйных гульняў Лукашэнка хоча стаць кіраўніком Расіі. Гэты факт, дарэчы, не абвяргаў і сам Ельцын. У сваёй кнізе «Президентский марафон» Ельцын сцвярджаў, што першапачатковы тэкст дамовы аб стварэнні саюза Беларусі і Расіі (падпісаны 2 красавіка 1997 года) быў складзены такім чынам, што беларускі кіраўнік на пэўны час станавіўся на чале Расіі. Па словах Ельцына, гэта своечасова заўважыў Анатоль Чубайс.

Сам Ельцын, напэўна, пачаў адчуваць настроі Лукашэнкі і шукаў нагоду, каб публічна асадзіць беларускага калегу, які занадта зарваўся. Такой нагодай у 1997 годзе стала справа Шарамета і Завадскага (калі кіраўнік карпункта ОРТ у Мінску Павел Шарамет і апаратар Дзмітрый Завадскі былі затрыманыя беларускімі спецслужбамі на беларуска-літоўскай мяжы). Нягледзячы на патрабаванні Ельцына, Лукашэнка не выпускаў журналістаў. І тады Расія ў кастрычніку 1997 года забараніла беларускаму кіраўніку пралёт у паветраную прастору Расіі (Лукашэнка накіроўваўся на сустрэчу з яраслаўскім губернатарам).

Расія пачала змяншаць эканамічныя прэферэнцыі Беларусі, што дало Лукашэнку нагоду заявіць у пачатку ліпеня 1999 года на сесіі парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі пра неабходнасць пераадолення Беларуссю «дикого крена на Восток».

Аднак Ельцыну было ўжо ўсё роўна. Ён канчаткова вырашыў сысці. Аднак пад канец Барыс Мікалаевіч аказаў свайму калегу «мядзведжую паслугу»: 8 снежня 1999 года быў падпісаны дагавор аб стварэнні так званай «Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі» — чарговай хімеры палітыкаў, якія жадалі падмануць адзін аднаго.

Праз дваццаць гадоў гэтую хімеру ўзяўся адрадзіць Уладзімір Пуцін. Ці рыхтавацца Беларусі да «Белоруссии»?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Патрэбны свіння і міньён

На пасяджэнні ў Акадэміі дзяржкіравання прэм'ер Узбекістана Абдула Арыпаў нечакана паставіў перад чыноўнікамі задачу — стварыць мультыплікацыйных персанажаў накшталт свінкі Пэпы або міньёна. Ва Узбекістане трэба працаваць над стварэннем сваіх герояў, заклікаў Арыпаў. Кіраўнік урада не сумняваецца, што мясцовая кінастудыя «Узбекфільм» здолее ствараць падобных персанажаў, якія падужаюць да вышынь папулярнасці заходніх мультыплікацыйных герояў. Гэта дапаможа мясцовым прадпрыемствам, якія выпускаюць нацыянальныя лялькі. Тэма мульцікаў выклікала вялікі рэзананс у краіне. Народ спрачаецца — колькі грошай з бюджэту змарнуюць на мультфільм пра ўзбекскую Пэпу. Іншыя смяюцца з таго, што праблема свінні з мультфільмаў стала ва Узбекістане пад Новы год найбольш важным пытаннем. Некаторыя здзіўляюцца — навошта прыдумляць ровар, калі ва ўзбекскай культуры ёсць вядомы на ўсім свеце герой. Гаворка пра Хаджу Насрэдзіна. Аднак узбекскія чыноўнікі ўпарта ігнаруюць Насрэдзіна. І, відаць, нездарма, бо, паводле помнікаў фальклору, хітрун ахвотна дурыць прадстаўнікоў улады ды багацеяў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ЗША. Такі іслам нам не патрэбны!

Упершыню ў гісторыі ЗША ў амерыканскі парламент трапілі дзве жанчыны-мусульманкі. Гэта Рашыда Тлаіб і Ільхана Амар. Яны нават прынялі прысягу на Каране. Гэты факт выклікаў вялікую цікавасць ва ўсім мусульманскім свеце. Не толькі таму, што мусульмане ў ЗША складаюць усяго 1,1 працэнта ад насельніцтва. Значна цікавей тое, што новыя дэпутаткі-мусульманкі з'яўляюцца прадстаўніцамі свежых хваляў мусульманскай эміграцыі ў ЗША. Гэта азначае, што імігранты — без году тыдзень у краіне — і яны ўжо маюць сваіх прадстаўнікоў на самым вышэйшым узроўні. А вось у Расіі, дзе мусульман каля 10 працэнтаў, звярнулі ўвагу на тое, што ніхто прысягу на Каране не прымае. Гэта ілюструе рэальную палітычную вагу мусульман. Але самы незвычайны аспект звязаны з тым, што Рашыда і Ільхана з'яўляюцца левымі актывісткамі з адпаведным наборам перакананняў, многія з якіх абсалютна не сумяшчальныя з перакананнямі кансерватыўных мусульман. Абедзве «праславіліся» заклікамі да радыкальнага фемінізму, абароны абортаў, «правоў ЛГБТ» і гэтак далей. Таму многія ісламскія медыя заклікаюць не верыць у тое, што Рашыда і Ільхана прадстаўляюць сапраўдны іслам.

**Паводле замежнай прэсы**

### ФРГ. Другая сусветная пачалася сто гадоў таму?

Такія незвычайныя заявы тыражуе нямецкая правая прэса. Іх аўтары нагадваюць, што роўна сто гадоў таму пачалася неабвешчаная вайна паміж Германіяй, якая прайграла Першую сусветную вайну, і толькі створанай Польшчай. Паколькі новыя межы паміж краінамі кожны з бакоў тлумачыў на сваю карысць, у Сілезіі і Познаньскім краі распачаўся шэраг лакальных канфліктаў. Праз паралюш улады ў Германіі, дзе была зрынутая імперыя і толькі-толькі пачала фармавацца рэспубліканская сістэма праўлення, ініцыятыва была на баку палякаў. Часткова тэрытарыяльныя дамаганні Варшавы падтрымлівала Антанта, якая бачыла ў Пілсудскім сілу, здольную спыніць бальшавізм. Развіць поспех палякам не далі рэшткі Вермахта і добраахвотнікі. Сутыкненні працягваліся да 19 лютага, калі Антанта запатрабавала спыніць баявыя дзеянні. Канчаткова межы паміж краінамі былі ўрэгуляваныя прыкладна да 1920 года. Аднак абодва бакі лічылі іх несправядлівымі, што ў перспектыве стварыла ў Германіі базу для рэваншызму і шавінізму, на хвалі якога Гітлер і прыйшоў да ўлады.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. «Жоўтыя камізэлькі» акупуюць эстраду

Паралельна пратэстам «жоўтых камізэлек» у Францыі паўстае мода на музычныя творы, прысвечаныя ўдзельнікам гэтага руху. З пачатку пратэстаў на YouTube з'явілася з тузін розных мелодый, выканаўцы якіх выслаўляюць пратэстоўцаў. Найбольшы поспех на гэтай глебе мае Коп Джонсан, чый твор «Жоўтыя камізэлькі» сабраў на YouTube больш за 16 мільёнаў праглядаў. Некаторыя нават лічаць гэты матыў гімнам руху. Цікава, што большасць музычных кампазіцый, якія рэкламуюць цяперашнія пратэсты, цяжка назваць вельмі таленавітымі ды якасна зробленымі. Аднак выканаўцаў гэта не турбуе. Яны кажуць, што розныя хібы, наадварот, дапамагаюць ім перадаваць гнеў народу. Між тым, напярэдадні Новага года вядомыя музыкі адгукнуліся на пратэстныя падзеі ў Францыі дастаткова якаснымі кліпамі. Таму можна казаць, што самае цікавае ў гэтай галіне яшчэ наперадзе.

**Паводле французскай прэсы**


www.dlyakota.ru

# Катаў Чаўшэску — пад суд!

*Алег НОВІКАЎ*

**У Румыніі неўзабаве пачнецца працэс стагоддзя. Генпракуратура прад'явіла абвінавачванні былым вышэйшым кіраўнікам краіны, якія зрынулі ў снежні 1989 года камуністычнага дыктатара Нікалае Чаўшэску.**

Усе, хто ў свядомым узросце заспеў 1989 год, безумоўна, памятаюць драматычныя падзеі ў Румыніі, дзе ў снежні на вуліцах сталіцы ішла сапраўдная вайна — яна нечакана пачалася, і гэтак жа нечакана скончылася перамогай праціўнікаў дыктатуры. Сам Чаўшэску разам з жонкай быў публічна расстраляны літаральна на наступны дзень пасля ўцёкаў з Бухарэста.

Да апошняга часу лічылася, што катамі рухала ў чымсьці зразумелае пачуццё помсты на адрас чалавека, які на працягу 30 гадоў персаніфікаваў жорсткі палітычны рэжым. Але ў рэчышчы апошніх навін з Румыніі на пакаранне Чаўшэску прапануюць глядзець у іншым ракурсе. Алену і Нікалае Чаўшэску расстралялі, паколькі яны занадта шмат ведалі. Перш за ўсё, пра Іона Іліеску — партыйнага функцыянера, які ў свой час быў на вяршыні ўлады, але ў выніку быў зрынуты і вярнуўся ў палітыку толькі ў снежні 1989-га як лідар апазіцыі.

Пракуроры, якія расследуюць падзеі амаль 30-гадовай даўніны, высветлілі, што Іон Іліеску, былы прэзідэнт Румыніі (заняў пасаду адразу пасля падзей канца 1989 года) і яго паплечнікі арганізавалі сапраўдны пераварот. Яны наўмысна шляхам дэзінфармацыі і панічных паведамленняў для прэсы правакавалі напружанасць і страх у грамадстве, падштурхоўвалі людзей да гвалту. Канчатковай мэтай гэтага штучнага хаосу было адхіленне Чаўшэску ад улады.

Следства выявіла, што з 22 па 30 снежня 1989 года на тэрыторыі Румыніі былі расстраляныя больш за 12 мільёнаў патронаў, у выніку чаго, паводле афіцыйных дадзеных, загінулі 862 чалавекі. Яшчэ больш за дзве тысячы атрымалі раненні. Усё гэта ўспрымаецца следствам як злачынствы супраць чалавецтва, за якія цяпер давядзецца адказаць.

З улікам карумпаванага характару румынскіх дзяржаўных інстытутаў, версія пракурораў выклікае шэраг пытанняў. Галоўнае з іх — ці няма тут палітычнай замовы? Прынамсі, сам Іліеску ў інтэрв'ю «Figaro» кажа пра спробы дыскрэдытацыі кіруючай у краіне Сацыял-дэмакратычнай партыі, ля вытокаў стварэння якой ён асабіста стаяў.

У любым выпадку, працэс над Іліеску, калі ён пачнецца, будзе дакладна ў фокусе ўвагі грамадства постсавецкіх рэспублік. Напрыклад, за справай уважліва сочаць у Малдове. У моманты гарачай фазы Прыднястроўскага канфлікту ў 1992 годзе Іліеску неадназова прыязджаў у Кішынёў, сустракаўся з тагачасным прэзідэнтам Снегурам, і мог натхніць яго на радыкальны варыянт вырашэння праблемы сепаратызму. Прымаючы пад увагу тое, што ў лютым у Малдове адбудуцца лёсавызначальныя парламенцкія выбары, справу Іліеску відавочна будуць выкарыстоўваць для дыскрэдытацыі ідэі ўніі з Румыніяй.

Справу Іліеску ўважліва маніторацць у Казахстане і Украіне. Казахскія дысідэнты лічаць, што расправа над Іліеску стане «чорнай меткай» для Назарбаева, які ў 2013-м санкцыянаваў расстрэлы страйкоўцаў-нафтавікоў у Жанаазене.

З эйфарыяй адрэагавалі на навіны з Румыніі ва ўкраінскай апазіцыі. Яе прадстаўнікі праводзяць паралелі паміж Бухарэстам 1989 года і Кіевам 2014-га. У абодвух выпадках была страляніна «нявызначаных асобаў» на натоўпе, што падарвала аўтарытэт улады і інспіравала народныя хваляванні. Асабліва абсмоктваюць тое, што ўчарашнія патроны Іліеску на Захадзе сёння нічога не робяць, каб выратаваць былога партнёра.

Праўда, факт наяўнасці ў Іліеску шчыльных кантактаў з Захадам у снежні 1989-га застаецца спрэчным. У тым ліку з-за падзей у студзені 1990-га, калі ў Бухарэсце пачалася дэманстрацыя, арганізаваная кааліцыяй празаходніх партый. Маніфестанты выступалі супраць Іона Іліеску ды скандавалі: «Учора Чаўшэску, сёння Іліеску». У адказ той заклікаў народ прыйсці ў цэнтр сталіцы. Мабілізаваныя па старых каналах рабочыя і шахцёры атакавалі маніфестантаў дубінкамі. Былі разгромленыя офісы апазіцыі, а яе лідары ледзь засталіся жывымі. Менавіта Захад не даў замяць пагромы, падчас якіх былі забітыя 4 чалавекі. Нягледзячы на спробу румынскага суду закрыць крымінальную справу, у 2015 годзе Еўрапейскі суд па правах чалавека, наадварот, пераканаў Румынію аднавіць расследаванне.

Цікава, як усё гэта будзе падавацца ў Расіі? Некаторыя эксперты сцвярджаюць, што Іліеску меў сувязі з КДБ аж да таго, што быў завербаваны «кантораў». З гэтай версіяй выступаў расійскі дысідэнт Уладзімір Букоўскі, якому пэўны час быў прадстаўлены доступ да савецкіх архіваў. Па словах Букоўскага, па каналах КДБ Іліеску падтрымліваў шчыльную сувязь з Міхаілам Гарбачовым, якому рэжым Чаўшэску, нібыта, быў косткай у горле. На той момант Бухарэст асуджаў лінію дэмакратызацыі савецкага блока, што ў вачах савецкіх кансерватараў ператварала яго ў нейкі цэнтр супраціву. Аматары гэтай версіі сцвярджаюць, што ўся румынская рэвалюцыя 1989-га была змовай, арганізаванай КДБ. Дарэчы, калі Іліеску прыйшоў да ўлады, ён сапраўды першапачаткова афішаваў не дэмакратычную праграму, а хутчэй нейкую падобную да перабудовы Гарбачова. «Рэвалюцыя была супраць Чаўшэску, а не супраць камунізму і сацыялізму», — казаў тады адзін з паплечнікаў Іліеску.

Хуткі працэс над 81-гадовым Іліеску зм яшчае дастаткова інтрыг, здагадак і пытанняў. У тым ліку незразумела, як цяпер трактаваць падзеі снежня 1989-га, якія яшчэ ўчора лічыліся дэмакратычнай рэвалюцыяй. Але пошукі адказу, безумоўна, узмацняць настальгію па часах Чаўшэску ды аўтарытарныя трэнды ў румынскім грамадстве, што, зрэшты, сёння характэрна для ўсёй Усходняй Еўропы.

# Грузія грыпуе

Алег НОВІКАЎ

**Грузінаў атакуе небяспечная форма грыпу. Ці будзе мецца эпідэмія, ахвярамі якой сталі ўжо каля дзесяці чалавек, маштабныя палітычныя наступствы?**



Фота www.kp.by

Калі чытаеш цяперашнія зводкі з Грузіі, на памяць адразу прыходзяць сцэны, якія назіраліся ва Украіне ў 2009 годзе. Там у канцы кастрычніка 2009 года прайшла інфармацыя пра новы смяротны вірус грыпу, якая спарадзіла ў грамадстве сапраўдную паніку. У аптэках з'явіліся чэргі. З паліц змяталі ўсё — і не толькі супрацьвірусныя прэпараты. Аматары народнай медыцыны выграблі з рынкаў лімоны і цыбулю. Стужкі навінаў галоўным чынам інфармавалі толькі пра тое, колькі чалавек захварэлі, колькі — шпіталізаваныя, колькі — памерлі.

У Грузіі такога яшчэ няма, аднак фрагментарна сітуацыя падобная. Паводле афіцыйнай інфармацыі, на 7 студзеня ад грыпу памерлі ўжо 10 чалавек. Яшчэ дзясяткі пацыентаў у цяжкім стане знаходзяцца ў бальніцах, у рэанімацыйных аддзяленнях, падлучаныя да апаратаў штучнага дыхання. У сувязі з шырокім распаўсюдам у Грузіі віруса грыпу шэраг установаў першай хуткай медыдапамогі перайшлі на надзвычайны рэжым працы. Людзі імкліва разбіраюць марлевыя павязкі.

Калі верыць СМІ, у пераважнай большасці людзей у свеце хвароба працякае ў выглядзе грыпападобнай хваробы без асаблівых ускладненняў. Але ёсць і больш цяжкая форма хваробы, якая характарызуецца хуткай віруснай пнеўманіяй. Яна, у адрозненне ад бактэрыяльнай пнеўманіі, не баіцца антыбіётыкаў, і пры адсутнасці правільнага лячэння можа прывесці да смяротнага зыходу на працягу 24 гадзін пасля выяўлення першых прыкмет ускладненняў.

Нездарма ў суседніх краінах таксама панікуюць. Кампанія «Азербайджанскія чыгункі» прымае захады для прадухілення прыходу H1N1. На грузінскай мяжы праводзіцца дэзінфекцыя цягнікоў, што прыбываюць у краіну. «Увесь рухомы састаў праходзіць прымусовую дэзінфекцыю», — перадаюць азербайджанскія СМІ.

На сітуацыю, паводле медыкаў, негатыўна ўплывае славуты «каўказкі менталітэт», які патрабуе ад людзей аптымістычна ўспрымаць праблемы, у тым ліку такую «дробязь», як грып. Бацькі без комплексаў адпраўляюць дзяцей у школы, нягледзячы на прыкметы хваробы. Дарослыя, адчуўшы слабасць у арганізме, адмаўляюцца выклікаць доктара, надаючы перавагу алкаголю і сродкам народнай медыцыны.

Думаецца, што эпідэмію ў Грузіі атрымаецца бліжэйшым часам лакалізаваць. На фронт з грыпам ужо мабілізаваныя вялікія рэсурсы. У тым ліку ніхто не зацікаўлены ў тым, каб піярыцца на хваробе. У адрозненне ад той жа Украіны 2009-га, дзе, як падаецца, вірус быў часткай выбарчай тэхналогіі. Нагадаем, што эпідэмія чамусьці выбухнула ў час, калі рэйтынг тагачаснага украінскага прэм'ера Юліі Цімашэнкі трапіў у глыбокі штопар праз скачок долара.

СМІ звярталі ўвагу на відавочныя нестыкоўкі ва ўрадавых рапартах. Нягледзячы ўсяго на два на той момант пацверджаныя выпадкі смерці ад свінога грыпу, Кабмін Цімашэнкі пачаў казаць пра масавую смяротную эпідэмію і абмяркоўваць сцэнар пагалоўнай вакцынацыі. Менавіта Цімашэнка пазней спрабавала выступіць у амплуа ратаўніка нацыі — выправілася ў аэрапорт «Барыспаль», каб у прысутнасці кінакамер сустрэць самалёт з нейкімі цудоўнымі лекамі. Праўда, у выніку гэта не дапамагло. У 2010-м Цімашэнка прайграла выбары Януковічу.

Аднак цяперашняя эпідэмія ўсё роўна паўплывае на агульны палітычны працэс. Як пішуць эксперты, яна стане дадатковым негатывам у агульны кошык расчаравання «Грузінскай марай». Не зважаючы на перамогу на выбарах прэзідэнта, урадавы лагер увайшоў у новы год вельмі фрагментаваным. Ілюстрацыяй крызіснага стану сталі навагоднія выключэнні з партыі шэрагу дэпутатаў. Той факт, што пасяджэнне фракцыі праходзіла ў прысутнасці Бідзіны Іванішвілі (алігарх і стваральнік праекту «Грузінская мара»), сведчыць пра цяжкую атмасферу ўнутры партыі. У тых, хто быў выключаны, адразу з'явіліся прыхільнікі ў тым ліку і сярод былых аднапартыйцаў. З улікам гэтага шмат хто прагназуе крызіс каманды Іванішвілі бліжэй да парламенцкіх выбараў 2020 года і з'яўленне новых палітычных актораў. На тэмп і маштаб гэтага працэсу будзе ўплываць і тое, якой моцнай будзе цяперашняя ўспышка грыпу.

Эпідэміяй дакладна паспрабуюць скарыстацца ў Расіі, звязваючы грып з дзейнасцю Цэнтра імя Лугара, што быў створаны ў 2002 годзе непадалёк ад Тбілісі міністэрствамі абароны Грузіі і ЗША ў межах дамовы пра супрацоўніцтве ў сферы тэхналогій па развіцці, у тым ліку біялагічнай зброі. Калі верыць СМІ Расіі, з пачаткам функцыянавання лабараторыі Лугара ў Грузіі сталі распаўсюджвацца не вядомыя дагэтуль жыхарам краіны вірусы, у тым ліку свіны грып. Урад Грузіі падобныя паведамленні катэгарычна абвяргае, аднак расійскія медыя працягваюць згушчаць фарбы. Самы свежы фэйк — грузінскі свіны грып, прадукт Цэнтра імя Лугара, днямі дасягнуў краін Балтыі.

**На сітуацыю негатыўна ўплывае славуты «каўказкі менталітэт», які патрабуе ад людзей аптымістычна ўспрымаць праблемы, у тым ліку такую «дробязь», як грып. Бацькі адпраўляюць дзяцей у школы, нягледзячы на прыкметы хваробы. Дарослыя адмаўляюцца выклікаць доктара**

У Грузіі выбарчы цыкл скончыўся ў снежні, і цяпер кіруючая партыя «Грузінская мара» зацікаўленая ў нейкай стабілізацыі. Нагадаем, што ў снежні апазіцыя не прызнала перамогі на прэзідэнцкіх выбарах ураджэнкі Парыжу і французскага дыпламата грузінскага паходжання Саломэ Зурабішвілі і спрабавала арганізаваць Майдан. КПД пратэстаў, аднак, аказалася слабым. Сярод вялікай часткі насельніцтва захаваўся страх перад вяртаннем у краіну экс-прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі, які кіруе праціўнікамі «Грузінская мары» з-за мяжы і выступае з радыкальных пазіцый.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Луіджы Дзі Маё



Віцэ-прэм'ер ураду Італіі і старшыня «Руху пяць зорак» (M5S) дазволіў сабе ўчынак, які супярэчыць кодэксу еўрапейскага палітыка. Італьянец адкрыта падтрымаў апазіцыйны рух «жоўтых камізэлек» у суседняй Францыі.

Больш за тое, ён прапанаваў маніфестантам дапамогу з боку Рыма, каб іх «пратэсты не станавіліся больш слабымі». На думку Дзі Маё, для пачатку французы, незадаволеныя Макронам, могуць скарыстацца інтэрнэт-рэсурсам, які належыць M5S. На яго платформе «жоўтыя камізэлькі» могуць каардынаваць акцыі, высунуць кандыдатаў, сфармаваць выбарчую праграму. Прапанова Дзі Маё гучыць вельмі актуальна, паколькі напярэдадні адна з фракцый «жоўтых камізэлек» заклікала да трансфармацыі руху ў партыю.

Увогуле, ад прыходу да ўлады ў Італіі папулісцкага кабміну ў чэрвені мінулага года італьянска-французскія адносіны цяжка назваць добрымі. Па сутнасці, у Парыжы і Рыме пры ўладзе канцэптуальныя ворагі. Францыя выступае за адзіную Еўропу, а Італія — наадварот, за большы суверэнітэт краін-сябраў аб'яднання. Аднак раней канфлікт не выходзіў за межы абмену асабістымі абразамі паміж Макронам і Матэа Сальвіні (кіраўнік італьянскага МУС). Пасля выхадкі Дзі Маё супрацьстаянне, відавочна, выйдзе на новы ўзровень. Асабліва з улікам таго, што маніфестацыі «жоўтых камізэлек» у Францыі набываюць усё больш ваяўнічы і бескампрамісны характар.

### Санцьяга Кондэ



Старшыня іспанскай партыі Vox і яго партыя ў мінулым снежні сенсацыйна прарваліся ў першую лігу мясцовай палітыкі, атрымаўшы 11 працэнтаў галасоў на рэгіянальных выбарах у Андалузіі. Ніколі з часоў рэстаўрацыі дэмакратыі ў Іспаніі правыя радыкалы не мелі такой вялікай электаральнай падтрымкі.

Больш за тое, у Vox з'явілася магчымасць увайсці ў рэгіянальны ўрад на правах малодшага партнёра кансерватыўнай Народнай партыі (PP) і цэнтрысцкай партыі Ciudadanos. Аднак раптам на шляху да кааліцыі ўзнікла перашкода ў выглядзе дзівацтваў кіраўніцтва Vox. Правыя гатовыя далучыцца да кааліцыі толькі пры ўмове скасавання ў будучым бюджэце артыкула пра фінансавую падтрымку грамадзянскіх ініцыятыў, якія дапамагаюць жанчынам — ахвярам сямейнага гвалту. Як лічаць правыя радыкалы, такія ініцыятывы — не што іншае, як «гендарны талібан». І ўвогуле, на іх думку, галоўнымі ахвярамі сямейных канфліктаў з'яўляюцца мужчыны.

Хаця такі падыход да пытання сямейнага гвалту гучыць яўна скандальна, кансерватары гатовыя пайсці насустрач правым радыкалам. Дзеля прэстыжу PP вельмі важна ўпершыню за апошнія 36 гадоў узначаліць андалузскі ўрад. А вось лідары партыі Ciudadanos, якія мараць стаць саліднымі еўрапейскімі палітыкамі, яўна ў шоку ад капрызаў правых радыкалаў. Пакуль яны вагаюцца наконт саюзу з Vox. Ад гэтага рашэння будзе шмат што залежыць. У тым ліку, ці стануць экстрэмісцкія забабоны нормай іспанскай палітычнай дыскусіі?

### Аляксей Навальны



Адзін з лідараў антыпуцінскай апазіцыі і яшчэ шэраг антыпуцінцаў, здаецца, вырашылі выкарыстаць супраць Крамля яго ж любімую тэму — патрыятызм.

Прэлюдыяй стала незвычайныя заява японскага прэм'ер-міністра Абэ пра тое, што перамовы пра мірную дамову з Расіяй наконт Курыльскіх астравоў нібыта завершаныя і застаецца толькі парафіраваць дасягнутыя дамоўленасці, каб затым падпісаць дакументы, якія прадугледжваюць «вяртанне» астравоў пад японскае кіраванне. Кажуць, што Японія ў якасці платы за астравы будзе блакаваць санкцыі супраць Расіі на міжнародным узроўні.

Па слядах заяў Абэ і розных чутак Навальны запісаў відэаблог «Пуцін дорыць Курылы». У ролiку Навальны кажа пра намер расійскага кіраўніка зрабіць падарунак японскаму сябру за кошт інтарэсаў Расіі і яе народа. Як лічыць Навальны, «пытанне пра перадачу Курылаў неабходна вынесці на агульнанацыянальны рэферэндум, які пакажа, ці згодны расійскі народ на саступкі Токіё, ці не». Тэзісы Навальнага падтрымалі Чубайс і шэраг лібералаў. Яшчэ не зразумела, ці здолее апазіцыя абыграць Пуціна на яго ж полі. Аднак пакуль сітуацыя спрыяе апанентам Крамля.

МЗС РФ падазрона маўчыць. У сецiве абураюцца патрыятычныя карыстальнікі, якія не маюць якой бы там ні было афіцыйнай інфармацыі. Пуціна пры гэтым абразліва параўноўваюць з Хрушчовым, які «падараваў» Крым Украіне.

# Стагоддзе БССР.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Дзяржаўныя ідэолагі, афіцыйныя медыя і гісторыкі з пачатку 2019 года актыўна «святкуюць» стагоддзе стварэння Савецкай Беларусі. Усё б нічога, калі б год таму на такім жа ўзроўні беларуская дзяржава сустрэла і 100-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак у сакавіку 2018 года была агучана каманда «не выпінаць». Таму з'яўляюцца пытанні: ці сапраўды ўсё так кепска ў працэсе фармавання БНР, і ці гісторыя БССР такая адназначная і пазітыўная?**

## Дэпеша ў Берлін

З савецкіх часоў галоўнай памылкай кіраўнікоў БНР называецца адпраўка тэлеграмы з Мінску ў сталіцу кайзераўскай Германіі. Праз месяц, пасля прыняцця 3-й Устаўной граматы, 25 красавіка 1918 года сябры Рады БНР падрыхтавалі тэкст тэлеграмы імператару германскага рэйху Вільгельму ІІ, у якой, у прыватнасці, адзначалася: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкларавала незалежнасць цэласнай, непадзельнай Беларусі і просіць Вашу імператарскую вялікасць замацаваць яе намаганні па дасягненні дзяржаўнай незалежнасці ў саюзе з Германскай імперыяй». Тэлеграму падпісалі старшыня Рады Іван Серада, старшыня Народнага сакратарыята Язэп Варонка, сябры Рады Раман Скірмунт, Павал Аляксюк, Пятро Крычэўскі, Язэп Лёсік, Антон Аўсянік.

Пазней савецкая гістарычная навука ўчапілася за гэты факт і абвінавáціла бацькоў-заснавальнікаў беларускай дзяржаўнасці ў тым, што яны, маўляў, пайшлі на «ўгоду з д'яблам». Гэты сюжэт стаў адным з галоўных у спісе абвінавачванняў з боку камуністычнай і сучаснай дзяржаўнай ідэалогіі ў дачыненні да БНР.

Аднак дзяржаўныя ідэолагі, звычайна, імкнуцца абысці ўвагай тое, што першымі на «змову з Кайзерам» пайшлі не Скірмунт і кампанія, а менавіта бальшавікі, якія яшчэ ў лістападзе 1917 года пачалі ў Берасці перамовы з немцамі, мэтай якіх быў, хутчэй, не мір, а стварэнне ўмоў для пашырэння бальшавіцкіх ідэй у Еўропе. План прасоўвання рэвалюцыі не перашкодзіў бальшавікам — Троцкаму, Каменеву, Карахану, Ёфэ і іншым — шыкаваць на «дыпламатычным прыёме», які ў іх гонар зладзілі немцы, і піць віно з кайзераўскімі афіцэрамі. Гасцей з Петраграда мала цікавіў лёс Беларусі і Украіны. Яны адстойвалі права распаўсюджваць сваю агітацыйную літаратуру за мяжой, у тым ліку ў Францыі і Англіі, што немцам імпанавала.






Як вядома, Берасцейскія перамовы скончыліся падпісаннем 3 сакавіка 1918 года мірнай дамовы, паводле якой значная частка Беларусі заставалася за кайзераўскай Германіяй. Гэтая стратэгія бальшавікоў, па сутнасці, паўтарылася праз дваццаць гадоў, калі ў жніўні 1939 года ў Маскве быў заключаны Пакт Молатава–Рыбентропа, паводле якога Еўропа павінна была быць падзелена паміж Гітлерам і Сталіным. У савецкі час і сёння дыпламатычныя манёўры «чырвоных» у 1918 і 1939 гадах афіцыйныя крамлёўскія (і не толькі) ідэолагі апраўдваюць неабходнасцю «ратаваць» бальшавіцкую Расію і Савецкі Саюз у «цяжкіх геапалітычных умовах».

Тады няцяжка зразумець тое, што ўвесну 1918 года дзеячы БНР таксама шукалі замежнай падтрымкі, і тэлеграма ў Берлін — гэта не «ўгода з д'яблам», а спроба ўратаваць беларускую незалежнасць. Аб'ектыўным з'яўляецца і тое, што пасля абвяшчэння незалежнасці БНР бальшавікі ўжо не маглі ігнараваць беларускі фактар і вымушаныя былі пайсці на стварэнне савецкай Беларусі.

## Ліквідаваць канкурэнтаў

Яшчэ адзін гістарычны міф: у 1925 годзе дзеячы БНР зразумелі бессэнсоўнасць сваёй дзейнасці і перадалі свае паўнамоцтвы Мінску. Аналіз гістарычных фактаў дазваляе сцвярджаць, што бальшавікі правялі спецаперацыю па перацягванні прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі на савецкі бок (у наўпроставым сэнсе) з мэтай будучай ліквідацыі палітычных ворагаў. Нягледзячы на тое, што большасць «буржуазных» суседзяў ставіліся абыякава да лёсу БНР, беларуская палітычная эміграцыя яшчэ верыла ў магчымасць стварэння несавецкай беларускай дзяржавы.

На змяненне гэтай канцэпцыі не паўплывала нават «амністыя» 1923 года, калі бальшавікі дазволілі вяртацца ў БССР тым, хто не змагаўся супраць іх са зброяй у руках. Беларускія палітыкі за мяжой працягвалі актыўна кантактаваць з урадамі краін Балтыі, Польшчы, удзельнічалі ў сустрэчах з прадстаўнікамі Лігі Нацый.

Усё гэта непакоіла бальшавіцкую ўладу. Урэшце было вырашана згуляць на супярэчнасцях, якія існавалі паміж лідарамі БНР. Яшчэ ў студзені 1925 года на нарадзе Бюро ЦК Кампартыі Беларусі было прынятае рашэнне аб «ліквідацыі беларускага народнага ўраду». Адказваў за рэалізацыю гэтага плану малады бальшавік Аляксандр Ульянаў (тады яму было ўсяго 24 гады. — І.М.). У красавіку таго ж года кіраўніцтва БССР прыняло рашэнне накіраваць чалавека з прозвішчам, як у правадыра сусветнай рэвалюцыі, на адказную працу ў Польшчу.

У пастанове пра гэта, у прыватнасці, адзначалася: «Паскорыць адпраўку па справах Беларусі, наладзіўшы ад яго атрыманне падрабязнай інфармацыі пра настроі і перспектывы сярод палітычных груповак у Заходняй Беларусі, выявіўшы і праверыўшы па гэтых дадзеных ступень спачування асобных груп і асоб да нашай палітыкі. Дамагчыся прысвяення т. Ульянаву правоў не аташэ, а правоў дарадцы. З прычыны неабходнасці зрабіць пралом у сцяне, якой Польшча імкнецца абмежаваць Заходнюю Беларусь ад БССР, лічыць неабходным аказваць садзейнічанне жывому абмену думак паміж навуковымі і грамадскімі арганізацыямі БССР і Заходняй Беларусі, дапускаючы як прыезд з Польшчы прадстаўнікоў у БССР, так і паездкі ад нас у Польшчу.

Пры гэтым пытанні, звязаныя з дадзенымі перспектывамі, і рэалізацыю іх строга каардынаваць ва ўсіх дэталях з народным камісарыятам замежных спраў. [...] Даручыць т. Ульянаву выявіць значэнне і сілу ўплыву праваслаўнага духавенства ў Заходняй Беларусі і магчымасць выкарыстання гэтага ўплыву на нашу карысць».

Аляксандр Ульянаў падчас знаходжання на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай актыўна ўключыўся ў «вывучэнне» беларускай палітэміграцыі. Малады бальшавіцкі чыноўнік, які знаходзіўся ў кантакце з ДПУ БССР, пачаў «рыхтаваць» чальцоў ураду БНР у эміграцыі да гучнай акцыі, звязанай з прызнаннем бальшавіцкага Мінска як галоўнага цэнтра кансалідацыі беларусаў.

«З мэтай вяртання дадому ў БССР я пачаў перамовы з савецкім прадстаўніком ужо ў 1924 годзе, калі паўпрадам быў т. Лоранц. Больш рэальна гэтыя перамовы пачаліся пасля прыезду ў Коўна летам 1925 года т. Ульянава і прызначэння новага паўпрада, здаецца, Кажэўнікава. Тады ж было вырашана склікаць Берлінскую канферэнцыю для ліквідацыі БНР. На неабходнасці фармальнай, поўнай ліквідацыі ўраду БНР настойваў я, а таксама, наколькі памятаю, — таварыш Ульянаў», — адзначаў у паказаннях, дадзеных у ліпені 1930 года на допыце ў ДПУ, былы прэм'ер-міністр БНР Аляксандр Цвікевіч.

У жніўні 1925 года ЦК КП(б) Б прыняў пастанову, у якой адзначалася:

1. Прызнаць мэтазгодным скліканне групай Цвікевіча ў Берліне беларускай канферэнцыі пры сямі абавязковых умовах:
   а. Папярэдняе прызнанне Мінска як адзінага культурнага і палітычнага цэнтра, на які павінен арыентавацца беларускі рух Польшчы, Літвы і Латвіі. Унесці ў дэкларацыю гэтае прызнанне. Барацьба су-




Мінск, 1930-я гады

# Зняць ружовыя акуляры

працы спробаў замежных дзяржаў узяць беларускі рух у свае рукі;

б. Адмова ад арыентацыі на Лігу Нацый;

в. Папярэдняя, да канферэнцыі, перадача паўнамоцтваў БНР Ураду БССР у форме дэкларацыі, у крайнім выпадку з умовай апублікаваць яе тады, калі гэта не перашкодзіць скліканню канферэнцыі (улічваючы небяспеку высылак і г.д.);

г. Падтрымка сусветнага з'езда беларусістаў у Мінску, недапушчэнне якога б тое не было супрацьпастаўлення яму Берлінскай канферэнцыі;

д. Прызнанне мэтазгодным стварэнне новага цэнтра беларускага руху за мяжой, у крайнім выпадку згода на стварэнне цэнтра на тэрыторыі БССР з савецкай арыентацыяй;

е. Згода гэтай групы дзейнічаць у поўным кантакце з Працоўна-сялянскай грамадой пры польскім Сейме;

ж. Адмова ад канферэнцыі групы Цвікевіча, калі большасць канферэнцыі не прыме ўмовы, пералічаныя ў пунктах «а-д».

2. Пры прыняцці ўмоў фінансаваць групу Цвікевіча».

У выніку Берлінская канферэнцыя адбылася 12–16 кастрычніка 1925 года. Аднак яшчэ 10 кастрычніка 1925 года кіраўнік Рады БНР Пятро Крычэўскі прыняў адстаўку прадстаўнікоў беларускага эмігранцкага ўраду Захаркі, Пракулевіча і Зайца, таму ў Берліне гэтыя палітыкі прадстаўлялі саміх сябе, а не БНР. «Берлінская канферэнцыя была склікана восенню 1925 года. На ёй былі я, Заяц (былы дзяржаўны кантралёр БНР. — І.М.), Галавінскі (былы прадстаўнік Ураду БНР у Кіеве. — І.М.), Пракулевіч (адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну, дзяржаўны сакратар ва Урадзе БНР), Захарка (намеснік старшыні Рады БНР Пятра Крычэўскага), Мамонька (сябар урада БНР, адзін са стваральнікаў партыі беларускіх эсэраў), Езавітаў (былы народны сакратар вайсковых спраў у першым Урадзе БНР), дэлегат з Рыгі, Вяршынін (з 1918-га консул БНР у Чэхаславакіі) і прадстаўнік студэнцтва ў Празе, Бароўскі (амбасадар БНР у Германіі) з Берліна. У Берлін у сувязі з гэтым выязджалі таварышы Славінскі (прадстаўнік КПЗБ пры ЦК КП(б) Б і Ігнатоўскі (наркам асветы БССР). Але яны прыехалі раней і з'ехалі назад. З Вільні не было нікога. Ад беларускіх паслоў у Варшаўскім Сейме таксама ніхто не прыехаў», — адзначаў у пратаколе допыту, складзеным у ліпені 1930 года ў ДПУ, Аляксандр Цвікевіч.

На канферэнцыі, якую арганізавалі бальшавікі, была прынята рэзалюцыя ў падтрымку савецкай Беларусі як адзінага цэнтра «беларускай справы». Газета «Савецкая Беларусь» рапартавала аб «ліквідацыі ўраду БНР» і чарговай перамозе бальшавіцкай палітыкі. Аднак гэта быў толькі першы крок да знішчэння бацькоўскай беларускай дзяржаўнасці XX стагоддзя. Другі (і апошні) не прымусіў сябе чакаць.

### Нечаканы 1937?

Афіцыйная беларуская ідэалогія сцвярджае, што, маўляў, ніхто не мог прадбачыць сталінскія рэпрэсіі. Аналіз развіцця бальшавіцкай сістэмы дазваляе сцвярджаць, што ад моманту захопу ўлады ў кастрычніку 1917 года яна была пабудавана на фізічным знішчэнні не толькі апанентаў, але і ўсіх іншадумцаў. Бальшавікам была патрэбна шэрая маса, вінцікі ў вялікім рэвалюцыйным рухавіку. Тыя, хто быў не згодны з гэтымі ўмовамі, проста ліквідаваліся. Так было падчас польска-бальшавіцкай вайны 1919–1920 гадоў, калі бальшавікі на тэрыторыі Беларусі расстралялі сотні святароў, заможных сялян, прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Крывавае бальшавіцкае жніво было ў Беларусі і ў пачатку 1930-х гадоў, калі сталінскія каты пачалі раскручваць справу «Хаўрусу вызвалення Беларусі». Наступным крокам у жудасным летапісе савецкіх злачынстваў у Беларусі быў 1937 год.

«Сёння ў Беларусі не выносяць тых грамадзян, якія добра валодаюць беларускай мовай у пісьме і гутарцы. Такіх прымаюць за рэшткі «нацдэмаўскага атрэб'я». Напрыклад, акадэмік беларускай Акадэміі навук спецыяльна стараецца гаварыць на беларускай мове з памылкамі, каб партячэйка не падазравала яго ў нацыянал-дэмакратызме. Бяспечней выкарыстоўваць ва ўстановах і штодзённым жыцці рускую мову, чым беларускую. Доўга Масква змагалася з ненавіснай «нацдэмаўшчынай». Бальшавікі бачылі яе ў ва ўсім», — так характарызавала рэпрэсіі ў БССР польская газета «Віленскі кур'ер» у 1937 годзе.




Газета «СБ» пра канферэнцыю БНР у Берліне

За адну ноч, з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, апрычнікі Сталіна знішчылі больш за 100 выдатных дзеячаў культуры і навукі Беларусі, сярод якіх былі Платон Галавач, Алесь Дудар, Тодар Кляшторны, Юрка Лявонны і іншыя. Тады ж НКУСаўцы канчаткова «разабраліся» і з бацькамі БНР, якія «наіўна» прыехалі ў 1920-я гады ў «калыску беларускай дзяржаўнасці» — БССР.

У Саратаве 20 жніўня 1937 года быў арыштаваны загадчык аддзела рэдкіх рукапісаў дзяржбібліятэкі Вацлаў Ластоўскі. У немалой ступені на гэта паўплывалі паказанні згаданага вышэй Аляксандра Ульянава, якога «блакітныя фуражкі» арыштавалі ў маі 1937 года.

На допыце, які адбываўся ў чэрвені таго ж года, былы бальшавіцкі чыноўнік адзначаў: «Падчас наступных сустрэч ён (супрацоўнік польскай выведкі Ваявудскі) расказаў мне пра тых, хто былі завербаваныя ім непасрэдна ў Беларусі. Ён, у прыватнасці, распавёў мне, што ў 1920 годзе ім былі завербаваныя для антысавецкай працы, акрамя Ігнатоўскага, таксама яшчэ Чарот, Смоліч, Лёсік, Ластоўскі». Хутка пратакол допыту Ульянава трапіў у Саратаўскі НКУС, а там ужо было справай тэхнікі выкрыць «махрыстага» ворага Ластоўскага. Падчас следства навукоўца дапытвалі толькі адзін раз, у кастрычніку 1937 года. На пытанне «Ці прызнае абвінавачаны сваю віну ў супрацы з польскай выведкай?» Ластоўскі адказаў: «Я прызнаю сябе вінаватым у тым, што на працягу шэрагу гадоў пад кіраўніцтвам польскіх выведвальных органаў праводзіў актыўную працу, накіраваную супраць савецкай дзяржавы, і, у прыватнасці, супраць Савецкай Беларусі. Але мая шпіёнская праца насіла некалькі своеасаблівы характар, у адрозненне ад звычайнага разумення слова «шпіён». Адказваючы на пытанні следчага, былы прэм'ер БНР прызнаваў сваю «контррэвалюцыйную дзейнасць», называў прозвішчы сваіх паплечнікаў. Чытаючы пратакол допыту, становіцца зразумелым, што паказанні даваў загнаны ў кут, стомлены ад жыцця чалавек, які, безумоўна, разумеў, які лёс яго чакаў.

Пры гэтым варта разумець, што супрацоўнікі НКУС маглі маніпуляваць атрыманымі падчас допыту дадзенымі. Падчас судовага пасяджэння Вайсковай калегіі Вярхоўнага суда СССР Вацлаў Ластоўскі цалкам прызнаў сваю віну, быў абвінавачаны ў супрацы з Другім аддзелам Генштабу Войска Польскага (выведкай) і 23 студзеня 1938 года прысуджаны да вышэйшай меры сацыяльнай абароны — расстрэлу. Прысуд быў выкананы ў той жа дзень.

Падобны лёс чакаў і іншага прэм'ера БНР — Аляксандра Цвікевіча. НКУС арыштаваў яго 17 снежня 1937 года, а ўжо 30 снежня яго расстралялі. Падчас працэсу «Хаўрусу вызвалення Беларусі» 1930 года, характарызуючы Берлінскую канферэнцыю, ва ўласнаручна напісаных паказаннях Цвікевіч адзначыў: «Я асабіста і пасля гэтай канферэнцыі застаўся беларускім нацыяналістам. З той толькі розніцай, што свой нацыянальны настрой імкнуўся рэалізаваць і задаволіць не ў старых формах «народнай» Беларусі, а ў новых формах Беларусі савецкай».



Немцы сустракаюць бальшавіцкую дэлегацыю

Лёс іншых сябраў Рады БНР, якія так ці інакш апынуліся ў 1920–1930-я гады ў БССР, быў таксама трагічным. Сябар Рады БНР Сымон Рак-Міхайлоўскі пераехаў у Мінск у кастрычніку 1930-га і працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея. У жніўні 1933 года супрацоўнікі ДПУ арыштавалі яго ў 2-м доме Саветаў, які па сёння знаходзіцца на мінскай вуліцы Карла Маркса. Рак-Міхайлоўскага абвінавацілі ва ўдзеле ў так званым «Беларускім нацыянальным цэнтры» і прысудзілі да расстрэлу, але потым замянілі прысуд 10-гадовай катаргай у Салавецкіх лагерах. У верасні 1937 года палітыка вярнулі ў Мінск. Новае следства працягвалася год. У лістападзе 1938 года «тройка» абвінаваціла беларуса ў супрацы з польскай выведкай і прысудзіла яго да расстрэлу. Прысуд быў выкананы ў сталіцы БССР.

Дзяржаўны кантралёр Ураду БНР і падпісант Берлінскай дэкларацыі 1925 года Леанард Заяц у 1935 годзе памёр ад сухотаў у турме НКУС ва Уфе. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну і дзяржаўны сакратар Ураду БНР Уладзімір Пракулевіч быў арыштаваны ў 1930 годзе, а праз 8 гадоў прысуджаны да расстрэлу. Сакратар апекі ў Народным сакратарыяце БНР Палута Бадунова ў 1925 годзе пераехала ў БССР з Чэхаславакіі. У лістападзе 1937 года яе прысудзілі да 10 гадоў катаргі, аднак праз год расстралялі ў Мінску.

Сябар Рады БНР Язэп Лёсік быў арыштаваны ў 1930 годзе і прысуджаны да 5 гадоў ссылкі. У сакавіку 1940 года прысуджаны за антысавецкую агітацыю да 5 гадоў лагераў. Памёр у турме ў Саратаве. Удзельнік абвяшчэння БНР у сакавіку 1918 года географ Аркадзь Смоліч быў арыштаваны ДПУ ў чэрвені 1930 года і прысуджаны да 5 гадоў ссылкі. У чэрвені 1937 года паўторна арыштаваны і праз год расстраляны ў Омску.

У 1922 годзе былы прэм'ер-міністр Беларускай народнай рэспублікі Аляксандр Цвікевіч так характарызаваў БССР: «Сёння, 25 сакавіка 1922 года, перад намі ляжыць яшчэ адна нераскрытая старонка. Загаловак яе: «Савецкая Беларусь». Гісторыю стварэння гэтай храміны мы добра ведаем. Створана яна чужымі, не беларускімі рукамі, і таму на ёй ляжыць спецыфічная пячатка штучнасці, няшчырасці і фарысейства. Прымірыць яе з усім папярэднім беларускім рухам, думаць, што ёй заканчваюцца імкненні нашага рэнесансу — па меншай меры наіўнасць. Створана яна не беларускімі рукамі і менш за ўсё служыць інтарэсам беларускага народу».

Зразумела, што Савецкая Беларусь — гэта адзін з этапаў гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Аднак не варта яе «гларыфікаваць», як робяць сённяшнія дзяржаўныя ідэолагі і казаць, што гэта была «краіна, мёдам і малаком бягучая». Гісторыю Беларусі трэба разглядаць не з савецкіх, а з беларускіх пазіцый. Толькі тады атрымаецца аб'ектыўны аналіз фактаў і адбудзецца перамога гістарычнай праўды над ідэалагічнай хлуснёй.

Фота з архіву аўтара

# Чытаючы «Прэм’еру» Горвата

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Незадоўга да Новага года другі твор Андрэя Горвата, аповесць «Прэм’ера», неяк ціхенька і не надта заўважна з’явіўся ў продажы. Без прэзентацый і аўтограф-сесій. Але каму трэба было, тыя заўважылі. Ды яшчэ і прачыталі.**

«Прэм’ера» перагукаецца з «Радзіва Прудок» (на тое яно і радзіва, каб перагукацца), але, як на мой густ, зусім да яго не падобная. Нягледзячы на месцамі аднолькавыя формы (аўтарскі гумар усё той жа) па змесце творы розняцца. «Радзіва» — дзённік, там усё зразумела. Замалёўкі вясковага жыцця — атрымайце-распішыцеся. «Прэм’ера» ж не мае дакладна акрэсленага сюжэту, гэта трохі (а месцамі і не трохі) сюррэалістычныя сны Аўтара напярэдадні прэм’еры спектакля, якія ставяць у Купалаўскім па тым самым «Радзіве».

Складана сказаць, ці зразумеў бы кнігалюб, што не чытаў Горвата раней ні ў якай форме, што творыцца ў той аповесці. Але такіх кнігалюбаў, бадай, будзе вельмі мала. Напэўна, асноўная маса чытачоў «Прэм’еры» — гэта ўсё ж тыя, што сумуюць па Прудку, казе і ўсіх героях. Дык некаторых у аповесці можна сустрэць (Цётку, Колю, Дурняў з лесу), але так, контурамі. Інтэрпрэтацыя інтэрпрэтацыі — спачатку рэальныя людзі ператварыліся ў герояў «Радзіва», а потым — ва ўласныя адбіткі ў «Прэм’еры».

Калісьці, ужо далёкай вясной 2016-га, з’ездзіўшы да Андрэя ў госці, Прудок і прудкоўцаў я агледала як Парыж. Выхаванцы лінгвістычных гімназій мяне добра зразумеюць. «Oh, les Champs Elysées!» і «London is the capital of Great Britain», — спачатку вучыш у школе «тэму пра Парыж» (ці пра Лондан, Берлін, Мадрыд, зараз, мабыць, Пекін) — а потым трапляеш туды, ходзіш, пазнаеш і не пазнаеш. Вось так было і ў мяне з Прудком. Не, я, канечне, не чакала, што вёска будзе выглядаць так жа, як на фота Ісаака Сербава 1912 года вырабу, але і галоўнай вуліцы, закатанай у асфальт, з хатамі, абкладзенымі цэглай, таксама не чакала.

Уражанні ад наведвання месца, пра якое шмат чыталася ці глядзелася, бываюць, напрыклад, вах! Дакладна як у кнізе/фільме/допісе. Вось дзеда Ганушу я адразу пазнала. І кавярня Амелі на Манмартры — як у фільме.

Ці: яно — не яно? У анекдотах аўцюкоўцы здаюцца бяскрыўднымі дзівакамі-небаракамі. А ў аповедах жыхароў недалёкай ад Прудка Пеніцы выступаюць як зухі. Адзін, напрыклад, колісь зацягнуў каня ў перапоўненую моладдзю хату падчас танцавальнай вечарынкі… І шылі аўцюкі добра, і вясельныя вянкі выраблялі.

Альбо: ай, зусім не так. Адкрыццё, што ў Луўры няма імпрэсіяністаў (яны ў музеі Арсэ). А ў экспазіцыі Цэнтра Пампіду ў кастрычніку 2014-га не знайшлося Суціна, толькі на сувенірах. Багемная Ратонда апынулася звычайнай і даражэй кавярняй… Глухія платы, цагляныя хаты, якія хацелі б быць катэджамі, — у Прудку. Ты, як у кожнай вёсцы, вітаешся нават з незнаёмымі людзьмі. А прудковец… яшчэ падумае, ці табе адказаць!

Дык вось героі «Радзіва» ў «Прэм’еры» нагадваюць уласныя цені. Бо сам Аўтар памятаюся. Тады, у 2016-м, я задалася пытаннем: «Чаго хочуць мужчыны?» Было так (цытую ўласны фэйсбучны допіс):





«— Андрусь, што мне казаць, калі спытаюць, хто я табе і чаго прыехала? Можна скажу — калега?

— Ні ў якім разе не кажы, што ты журналістка! Нават фотаапарат не даставай! Увогуле папрашу цябе ў Прудку не працаваць.

— Дык тады ж скажу: «Во, да Горвата дзеўкі ездзяць».

— А што, лепш, каб сказалі: «Да Горвата нават дзеўкі не ездзяць»?!

Увечары скідаю напрацаванае. Андрусь, расчараваны, адказвае: «А што, з Прудка толькі 2 фота?» І вось чаго хочуць мужчыны?»

Дык я дасюль не ведаю, чаго хочуць мужчыны ў масе, але Аўтар у «Прэм’еры» хоча, каб яго папросту ніхто не чапаў. Ні ў цягніку «Менск — Каленкавічы», ні ў Прудку, ні ў Парыжы, ні ў іншых еўрапейскіх гарадах. А мы чакалі яшчэ адзін дзённік, з нататкамі пра Еўропу… Але яшчэ ў 2016-м было зразумела, што Аўтар — партызан! Зноў цытую ўласны ФБ:

«Пісаў Андрэй Горват, што ў іх у Прудку і ваколіцах партызаны ўсе, нічога не расказваюць, а я не верыла. Праканалася.

light-варыянт. Надзея Пятроўна:

— А, я ж нічога не ведаю <нараты пра вяселле>. Ну, што я вам раскажу? <нараты пра хрэсьбіны> Дык не ведаю ж нічога! <наратыў пра танцавальныя вечарынкі>

Частую бабулю цукеркамі.

— Ай, еш сама (падарунак у традыцыйнай культуры павінны быць «аддараваны», хай сабе расповедам).

— Ну, як я буду назад забіраць, нельга.

— Ну, калі ўжо мы так з табой разгаварыліся, раскажу табе пра тваіх сваякоў (мае на ўвазе Горватаў. Калі я прыехала ў іх хату, значыць, ці сваячка, ці жонка, іншых канцэптаў тут не вызнаюць).

Вынік: гадзіна аўдыё і фота інтэр’ераў хаты.

middle-варыянт. Баба Ніна з Крышычаў:

20 хвілін размовы пра даўнейшае жыццё. Прашу назваць прозвішча. Адмаўляецца. Частую цукеркамі. Яшчэ 10 хвілін размаўляем пра маёнтак Палуянаў. Зноў пытаю прозвішча:

— Гэта ж для кніжкі, мо зборнік які будзе, трэба ведаць, хто расказаў…

— Мне не ў тваёй кніжцы ўжо трэба хвігурыраваць, а на могілках!

На развітанне блаславіла мяне і хрысціць. Цукеркі не падзейнічалі, прозвішча не ведаю. Упершыню ў маёй палявой практыцы з 2008 года.

«Хвігурыраваць» становіцца мемам вечару: «Варвара, хвігурыруй ужо ў ложак!» «А ты тут чаго так позна хвігурыруеш?»

hard-варыянт. Марыя Кузьмінічна:

Гуляем з Варварай па Прудку, вітаемся з бабуляй.

— Добры дзень!

— Добрага здароўя!

— Можа б я да вас пагаварыць падышла, як вы ў краму сходзіце?

— Мама мая ведала песні, таксама Варварай звалі. А я не ведаю нічога. Ідзі з Богам!

Сам пан-гаспадар таксама падхапіў партызанскі ген…»

Тым, хто чакае працягу «Радзіва», чытаць «Прэм’еру» катэгарычна не рэкамендую. Тым, каму цікава, што ж за кніга будзе змагацца з «Садомскай яблыняй» Алены Брава і «Вяртаннем Ліліт» Юліі Шаровай за прэмію Гедройца–2018 — можна і пачытаць.

Тыя самыя два фота з Прудка прыкладаю. Крыж зняла на пачатку вёскі, яшчэ ў хаце Андрэя не быўшы, і адзін кантрабандны краявід.

**Фота Алены Ляшкевіч**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №61

Падпісана да друку 11.01.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб’ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.